Год выданьня I.

Цана асобнага нумару 75 гр.

# Сям'я і Школа

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ І ПЭДАГОГІЧНЫ ЖУРНАЛ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9. | Вільня, Люты 1929 г. | № 1.



## Ад Рэдакцыі.

Бацькоўскі Камітэт і Пэдагогічная Рада Віленскае Беларускае Гімназіі маніліся адзначыць дзесяцілецьце сваей культурна-ўзгадаваўчае працы выпускам аднаднёўкі, якая зьмясьціла-б у сабе нарыс гісторыі нашае гімназіі і ўсялякія інфармацыі аб яе сучаснай арганізацыі і рабоце. Аднак, у меру падгатоўваньня матэрыялаў да праектаванае аднаднёўкі, Рэдакцыйная Колегія ўсё больш і больш здавала сабе справу з таго, што дзеля выпаўненьня пастаўленай ей задачы аднае толькі аднаднёўкі мала: нашае школьнае жыцьцё вымагае сталага, сыстэматычнага асьвятляньня розных бакоў сваіх і здарэньняў, дзеля чаго патрэбна і сталая часопісь пэдагогічнага характару.

У Латвіі, дзе ўсяго толькі каля 100,000 беларусаў жыве, дзе толькі адна гімназія беларуская, і то ёсьць спэцыяльныя беларускія пэдагогічныя часопісі, якія абслугоўваюць пэдагогаў і бацькоў вучняў як гімназіі, так і чысьленых пачаткавых беларускіх школ, утрымліваных коштам дзяржаўнага скарбу. У нас-жа — на ўсю Заходнюю Беларусь з паўтраця міліёнамі беларускага насяленьня—няма ня толькі ніводнае беларускае пэдагогічнае часопісі (хоць і маем тры гімназіі), але й наагул ніякае часопісі культурна-асьветнага характару, у якой можна было-б абгаварываць і асьвятляць справы й балячкі нашага школьніцтва. Дый гэтага мала: ў гэты сумны пэрыяд агульнага разгрому нашага грамадзкага жыцьця нямашака наагул масовае беларускае газэты, праз якую гімназія мела-б магчымасьць правільна і бесстаронна інфармаваць шырокія колы грамадзянства і бацькоў вучняў аб школьным жыцьці; а з гэтага карыстаюць варожыя беларускай культурнай працы органы прэсы, каб прадстаўляць гэтае жыцьцё ў сьвядома фальшывым і баламутным сьвятле ды гэтак адбіваць ахвоту пасылаць дзяцей у сваю беларускую гімназію у тых бацькоў, якія хацелі-бы сваіх сыноў і дачок вучыць іменна ў беларускай, а ня ў польскай ці расейскай сярэдняй школе.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, Бацькоўскі Камітэт і Пэдагогічная Рада Віленскае Беларускае Гімназіі пастанавілі адзначыць дзесятыя ўгодкі заснаваньня гімназіі, распачаўшы выдаваньне свайго пэдагогічна-школьнага органу пад назовам „Сям'я і Школа", каторы, напачатку выходзячы прынамся раз у кожную чвертку школьнага году, стаўся-б залатым мастом, што крапчэй зьвязаў-бы школу з бацькамі вучняў, у большасьці расьцярушанымі на ўсім вялікім прасторы Заходняе Беларусі і гэтак пазбаўленымі магчымасьці мець беспасрэдную сувязь з гімназіяй і ўзгадавальнікамі іх дзяцей.

Выпускаючы гэты першы нумар „Сям'і і Школы", Рэдакцыя спадзяецца, што ў нашай часопісі прымуць чыннае ўчасьце ўсе істнуючыя ў межах Зах. Беларусі беларускія гімназіі і народныя школы. Рэдакцыя верыць, што на страніцах „Сям'і і Школы" падаваць будуць свой голас ня толькі пэдагогі, але й бацькі вучняў, сваімі парадамі і ўвагамі дапамагаючы школам у іх цяжкай і адказнай працы над узгадаваньнем моладзі. Урэшце, рэдакцыя заклікае ўсё беларускае грамадзянства, а ў першы чарод тых бацькоў беларускіх школьнікаў, што хацелі-б мець поўную інфармацыю аб працы беларускіх школаў, каб безадкладна прысылалі падпісную плату за „Сям'ю і Школу" і гэтак дапамаглі нашай часопісі крэпка стануць на ногі, а з часам мо' йператварыцца ў сталы, паважны пэдагогічна-асьветны месячнік, што цяпер нам, на вялікі жаль, не пад сілу.

Злучэмся-ж, Бацькі й Пэдагогі, на груньце „Сям'і і Школы" ў вадну цесную, дружную сям'ю, каб супольнымі сіламі кіраваць навукай і ўзгадаваньнем маладых пакаленьняў— будучых грамадзкіх працаўнікоў і барацьбітоў за наш працоўны народ!

# Дзесятыя угодкі Віленскае Беларускае Гімназіі.

У працягу доўгіх-доўгіх гадоў народ беларускі, паняволены чужынцамі, вёў жыцьцё загнаных, бяспраўных рабоў, пазбаўленых навет найменшага праменьчыку сьвятла навукі. І ня толькі навукі ў сваей роднай, матчынай мове беларускай: для беларускіх сялянскіх масаў былі зачынены блізу зусім дзьверы й чужацкае школы, якая істнавала бадай выключна для „вышэйшых" станаў, для людзей вольных. І толькі з таго мамэнту, калі прыйшоў звод на прыгон — гэту найвялікшую ганьбу чалавецтва, пратрываўшую на Беларусі, як і па ўсей Расейскай імпэрыі, ажно да 1861 году, — толькі тады памалу пачынае шырыцца асьвета ў беларускіх масах у шырэйшым маштабе, толькі з таго часу школа ў беларускай вёсцы перастае быць такім рэдкім зьявішчам, як было ў часох прыгону. Але й гэтая новая школа блага выпаўняе своё назначэньне: яна — чужая, яна вучыць дзяцей у незразумелай для іх мове, яна ламае дзіцячыя душы, маючы на мэце перадусім узгадоўваць вясковых дзяцей беларускіх у духу „самодержавія, православія и русской народности". Рэдка беларускаму дзіцяці ўдавалася з народнага вучылішча пайсьці вучыцца далей — у гімназію: па выражэньню аднаго расейскага міністра асьветы, гімназіі ў царскай Расеі тварыліся „не для кухаркиных детей", а для дзяцей панскіх ды чыноўніцкіх... Але й папаўшы ў расейскую ўрадавую гімназію не канчаліся мукі і зьдзекі над дзяцьмі беларускімі: тут далей ішла духовая ломка, ішло выбіваньне „мужыцкага" беларускага духа і ўзгадоўваньне гэтых дзяцей на адступнікаў ад свайго народу, ад сваей працоўнай сям'і. І толькі ў рэдкіх выпадках вясковы хлопец, прайшоўшы праз усе ступені чужацкае школы і завяршыўшы сваю эдукацыю ў унівэрсытэце, аставаўся верным сынам роднае вёскі; але і тады, калі ён пачуваўся да сваей сацыяльнай еднасьці з працоўным народам, дык аказваўся чужым яму на сваей мове, культуры, нацыянальнай сьвядомасьці.



ІВАН ЛУЦКЕВІЧ
Закладчык Віленскай Беларускай Гімназіі
(апошні партрэт з чэрвеня 1919 г.).

Вось, паміж іншым, адна з найгалаўнейшых прычын таго, што народ беларускі гэтак позна пачаў будзіцца нацыянальна: беларускія інтэлігентныя сілы расьцярушываліся, танулі, глыталіся чужой нацыянальна стыхіяй. А вёска спала й мадзела, чакаючы тае часіны, калі нарэшце загляне сонца і ў яе ваконца. І толькі праз вусны народных поэтаў, што першыя падгатаўлялі шлях да нашага адраджэньня, высказывалася народная вера ў тое, што

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляю, доляй шчасьліваю.

Гэтак лятуцеў аб нашай будучыні Янка Лучына йшчэ ў 90-х гадох мінулага сталецьця. І вось — праз чверць веку — запраўды сонца навукі — навукі беларускай, зразумелай, роднай, што ўжо не ламае душ дзіцячых на чужы капыл, — заглянула слабенькім праменьчыкам у беларускія хаты. Ад канца 1915 году пачынаецца будаваньне забароненага раней беларускага школьніцтва — сьпярша ў пастаці пачатковых школаў, пасьля — гімназіяў, а ўрэшце — і вышэйшых школаў: унівэрсытэту і інш.

Сярод першых беларускіх сярэдніх школаў найбольш пачэснае меса належыцца Віленскай Беларускай Гімназіі, 10-ыя ўгодкі закладзінаў каторай цяпер спраўляюцца. І гэта — затым, што Віл. Бел. Гімназія здолела найдаўжэй вытрываць на сваім становішчы, раўнуючы да іншых сваіх равесьніц, аб якіх асталася адно толькі памяць у нашым народзе: дзеля тых ці іншых прычын яны былі хутка ліквідаваны.

Думка заснаваць у Вільні беларускую гімназію прыналежыць таму, хто слушна лічыцца Бацькам нашага адраджэньня: сьвятое памяці Івану Луцкевічу. Гэта Ен — перад самым выходам з Вільні нямецкіх акупантаў — распачаў працу над арганізацыяй гімназіі, прыцягнуўшы да гэтай справы старога пэдагога Міхала Кахановіча, што як раз пад гэны час быў прыехаўшы з Магілёва ў Вільню. Іван Луцкевіч даўно аблюбаваў пад гімназію гэтак-званыя Базыльянскія муры і дабіўся аддачы іх у рукі беларусаў. Гэта Ен згуртаваў патрэбныя вучыцельскія сілы і сам-жа быў у іх ліку. Хворы, слабы, за паўгоду да сваей сьмерці, Ен аддаў справе гімназіі астатак сваіх сіл, і передчасная сьмерць сустрэла Яго на становішчы найбольш чыннага, найбольш руплівага аб беларускую справу вучыцеля гімназіі.

Першым дырэктарам быў гр. Кахановіч. Побач з ім распачала працу ў гімназіі вучыцелька Алена Сакалова, якая ў найцяжэйшыя часы аставалася на сваім становішчы і па сёньняшні дзень



М. Кахановіч
першы дырэктар Віл. Бел. Гімназіі

працуе ў гімназіі. Далей з беларускіх дзеячоў бачым сярод вучыцялёў гімназіі Янку Станкевіча, Максіма Гарэцкага, пазьнейшую жонку апошняга, Леанілу Чарняўшчанку, і некаторых другіх, якія пачалі выкладаць выключна ў беларускай мове. Але побач з імі быў і рад такіх вучыцялёў, якія не маглі вучыць пабеларуску: хоць і беларусы з паходжаньня, яны, як гадунцы расейскіх унівэрсытэтаў, зусім забыліся роднае мовы і маглі выкладаць толькі парасейску. Да таго-ж трэ' адзначыць, што ў старэйшых клясах гімназіі былі вучнямі пераважна былыя вучні расейскіх гімназіяў, якія гэтак сама не маглі адразу перайсьці да навукі пабеларуску. І за першыя гады істнаваньня Віл. Бел. Гімназіі у старэйшых клясах пабеларуску выкладаліся толькі літэратура, гісторыя і геаграфія Беларусі, а іншыя прадметы выкладаліся парасейску.



Віленская Беларуская Гімназія.

Але з кожным годам далей, у меру таго, як гімназію канчалі старэйшыя вучні, што перш вучыліся ў расейскіх школах, а іх маладзейшыя калегі ўсё больш звыкаліся з беларускай мовай, — гімназія паступова й няўхільна пераводзіла выклад пасобных прадметаў на беларускую мову. Рабілася гэта з вялікімі труднасьцямі: з аднаго боку — ня было йшчэ апрацаванае навуковае тэрмінолёгіі ў беларускай мове, з другога боку—вучыцялі, выкладаўшыя парасейску, не выяўлялі асаблівае ахвоты вучыцца беларускае мовы і пераходзіць на яе ў выкладаньні. Першую задачу ўзяло на сябе Беларускае Навуковае Т-ва, якое склала адумысную тэрміналёгічную сэкцыю; вынікам гэтае працы быў выпуск Белар. Выдавецкім Т-вам цэлага раду неабходных беларускіх школьных падручнікаў дзеля ўсіх прадметаў (матэматыка, фізыка, гісторыя літэратуры, агульная гісторыя, беларус. граматыка, школьныя чытанкі і інш.). Другую труднасьць мусілі перамагчы вучыцялі-беларусы і пераняўшае гімназію, як канцэсіанер, Таварыства Беларускае Школы. І трэба сказаць, што перамога дасталася нялёгка: трудна было ламаць апор тых абмаскоўленых пэдагогаў, якія адным вокам усьцяж паглядалі на Маскву і пагражалі зусім кінуць гімназію, калі іх будуць прымушаць беларушчыцца. Але беларускае грамадзянства патроху падгатаўляла новыя пэдагогічныя сілы, якія, побач з старымі дзеячамі (А. Луцкевіч, А. Смоліч, Трэпка, Тарашкевіч і інш.), уваходзілі ў склад вучыцялёў, і з году ў год памяншалася лічба прадметаў і вычыцялёў, выкладаўшых парасейску. А праз тры-чатыры гады ўсе прадметы былі ўжо выкладаны пабеларуску.



А. Сакалова-Лекант
адзіная вуч. Віл. Бел. гімназіі, якая працуе у гімназіі ад самага заснаваньня да апошніх дзен.

Побач з гэтымі труднасьцямі пэдагогічнага характару гімназія перажывала нязвычайна цяжкія труднасьці чыста матэрыяльнага характару. Распачалася ў ёй навука ўва ўсіх васьмёх клясах і ў двух прыгатаваўчых пры 342 вучнях на... 44 лаўках і 15 крэслах, на якіх вучні сядзелі гэтак сьціснуўшыся, як селядцы ў бочцы. Дый Базыльянскія муры, пакіненыя немцамі, былі чыста зруйнаваныя, без вакон і дзьвярэй, з нягрэю-



Браніслаў Тарашкевіч
дырэктар Гімназіі у 1922 годзе



Інж. Антон Нэканда-Трэпка
дырэктар гімназіі 1922—1923 год.

чымі печкамі і г. д. Усё трэба было давясьці да ладу, паправіць, на ўсё трэба было грошы. Вучні,



Радаслаў Астроўскі
дырэктар гімназіі ад лістапада 1923 г. (з перарывам, калі сядзеў у вастрозе ў справе „Грамады“) да апошніх дзён.

якія хадзілі ў гімназію, належалі, як і сяньня, да найбяднейшае клясы насяленьня краю, дык з іх за навуку бралі зусім мала, а з найбяднейшых—і нічога ня бралі дый яшчэ іх кармілі і адзявалі. Ня дзіва, што, пры вельмінязначнай дапамозе ад зьмянаўшыхся ў нашым краю ўладаў (літоўская, савецкая, польская, ізноў савецкая, ізноў літоўская, „сьродкова-літоўская“, ды ізноў польская), грошы на ўсе патрэбы гімназіі заўсёды нехапала, і гэта адбівалася ў першы чарод на матэрыяльным палажэньні вучыцельскага пэрсонэлю, які часта проста галадаў. Бывалі мамэнты, калі месяцамі ня выплачываліся і без таго малыя пэнсіі, недастатачныя, каб пражыць, і вучыцялёў падтрымлівала толькі вера, што будзе лепей. На гэтым груньце ўзьнімаліся даволі вострыя спрэчкі сярод сяброў пэдагогічнае рады: адны стаялі на тым становішчы, што ім мусяць быць так ці сяк забясьпечаны іх пэнсіі, ды што ім дзела няма да таго, скуль Школьная Рада возьме на гэта грошы; другія імкнуліся адно да таго, каб захаваць гімназію навет цаной галаданьня, і—калі перщыя ўцякалі, як мышы з карабля, што тоне,—апошнія ўсё-ж вытрывалі на сваіх становішчах па сягоньняшні дзень, ня гледзячы на чысьленыя рэпрэсіі і „завешываньне“ іх школьнымі ўладамі.



С. Паўловіч,
заступнік дыр. гімназіі 1927-28 шк. году

Ня гледзячы на такія варункі працы, вучыцельскі пэрсонэль меў і ахвоту і сілу волі, каб ня толькі выпаўняць свае беспасрэднія абавязкі ў клясе, але і на тое, каб і па-за лекцыямі дапамагаць умацаваньню сярэдняга школьніцтва ў роднай мове. Гэта-ж усе падручнікі нашы — праца тых-жа вучыцялёў *) а часткова і вучняў, прымаўшых учасьце ў перакладах. У гімназіі закладаюцца вучнёўскія гурткі дзеля дадатковых заняткаў літэратурай, гісторыяй і інш. прадметамі, выдаюцца вучнёўскія часопісі, засноўваецца вучыцелем М. Красінскім Драматычная Майстроўня, у якой вучні ў вольным часе працуюць над арганізацыяй спэктакляў, муз.-вокальных вечароў і г. д., арганізуецца хор і оркестр. А вынікам усей гэтай працы сталася тое, што Віленская Беларуская Гімназія стаіць на першым месцы ў нашым сярэднім школьніцтве ў Зах. Беларусі. Яна—той сьветач, які паказвае шлях другім беларускім гімназіям, з якімі яна дзеліцца сваімі пэдагогічна-нацыянальнымі здабыткамі. І з яе ініцыятывы зьбіраецца ў 1923 годзе вельмі важны для нашага школьніцтва зьезд усіх вучыцялёў беларускіх гімназій пад Польшчай. А калі польскія школьныя ўлады падчас міністэрства Ст. Грабскага пробуюць незаконна накінуць выкладаньне некаторых прадметаў замест пабеларуску—у польскай мове, Віленская Бел. Гімназія вядзе першая барацьбу з гэтым імкненьнем спольшчыць яе і — разам з другімі нашымі гімназіямі — дабіваецца скасаваньня незаконнага і крыўднага цыркуляру міністэрства.

З году ў год выпускала гімназія ўзгадаваную ў духу адраджэнска-працоўных ідэалаў моладзь, даючы ей сьвядоцтва сьпеласьці („матуру“). Але ў межах Польшчы беларускае матуры ажно да гэтага школьнага году ўлады не прызнавалі, і беларускім матурыстам ня было месца ў польскіх унівэрсытэтах. З агульнае лічбы скончыўшых Віл. Бел. Гімназію 189 матурыстаў прымушаны былі выехаць у заграцічныя унівэрсытэты каля ста асоб, частка якіх ужо вярнулася з доктарскімі дыплёмамі. Нялічаныя адзінкі здавалі паўторна экзамены на польскую матуру, а рэшта мусіла зрачыся думкі аб вышэйшай асьвеце... І толькі сёлета змаганьне беларускага грамадзянства за правы для нашае гімназіі закончылася перамогай: ад гэтага году матуры, выдаваныя Віл. Бел. Гімназіяй, давацімуць права на паступленьне ў польскія вышэйшыя школы.



Ф. Стэцкевіч
дыр. гімназіі ад кастрычніка па сьнежань 1928 г.

Але гэтая перамога зыйшлася з вельмі сумнымі і бяспрыкладнымі ў дзесяцілетняй гісторыі гімназіі здарэньнямі: перад самымі Калядамі каля 20 вучняў пераважна 6, 7 і 8 клясы былі выда-

*) Максіма Гарэцкага—„Гісторыя Белар. Літэратуры“ і „Літэрат. Хрыстаматыя“, Л. Гарэцкая—„Родны Край“—кн. I — IV, Б. Тарашкевіч — „Беларуская Граматыка“, Р. Астроўскі—„Беларускі Правапіс“, „Арытмэтычны Задачнік“, „Космографія“ і інш., А. Трэпка — „Фізыка“, Смоліч—„Геаграфія Беларусі“, Луцкевіч — „Альгебра“, — ня лічучы цэлага раду перакладаў, зробленых гэтымі-ж вучыцялямі з чужых моваў.

лены Куратарыумам па абвінавачаньню іх адміністрацыяй у „антыпаньствовай“ дзеяльнасьці. Усе захады Пэдагогічнае Рады і Бацькоўскага Камітэту перад школьнымі і адміністрацыйнымі ўладамі не далі пажаданых вынікаў, і гэтак сягоньняшняе сьвяткаваньне дзесяцілецьця гімназіі прыцьмілася тэй сумнай сьвядомасьцяй, што гэткая значная група моладзі — будучых беларускіх інтэлігентаў — аказалася пазбаўленай магчымасьці завяршыць сваю эдукацыю ў вышэйшых школах ды мо'навет дакончыць яе ў сярэдняй...

Разважаючы сягоньня аб дзесяцігадовай працы Віл. Бел. Гімназіі, трэба ўспамянуць усіх тых людзей, якія—заўсёды ў поўнай еднасьці з бацькамі вучняў, аб'яднанымі ў Бацькоўскім Камітэце,—кіравалі ёю ў працягу даўжэйшага ці карацейшага часу. Пасьля трохгадовага дырэктарства першага дырэктара і арганізатара гімназіі М. Кахановіча, вёў гімназію нейкі час Браніслаў Тарашкевіч—ажно да часу выбару яго ў Сойм у 1922 г. Тарашкевіча замяніў на становішчы дырэктара — як раз у найцяжэйшы пэрыяд жыцьця гімназіі— Антон Нэканда - Трэпка. Пасьля — ад лістапада 1923 г. — быў дырэктарам Радаслаў Астроўскі да арышту свайго 15 студня 1927 г. ў сувязі з разгромам „Грамады“; цяпер—праз паўгоду пасьля апраўданьня яго судом—грам. Астроўскі вярнуўся на свае старое месца. У працягу двухгадовага перарыву ў дырэктарстве гр. Астроўскага кіраваў гімназіяй паўтара году грам. Сяргей Паўловіч, ды часова выпаўнялі абавязкі дырэктара грамадзяне А. Трэпка (паўторна), Ф. Стэцкевіч (былы дырэктар Радашкоўскае Гімназіі) і А. Міхалевіч. І пакладзеная імі ўсімі цяжкая, напружаная праца дала багаты плён, а ўзмацаваньне ўнутранага жыцьця, а такжа праўнага і матэрыяльнага стану гімназіі за апошні год дае надзею, што, ня гледзячы на ўсе спробы варагаў беларускага адраджэньня „узарваць“ гімназію і зьліквідаваць яе ці то шляхам правацыраваньня вучнёўскае моладзі, ці шляхам адміністрацыйных рэпрэсіяў,— не дасягнуць сваей мэты. На злосьць усім тым, што - займаючы ўзаемна варожае да сябе ідэйнае становішча — падалі сабе рукі дзеля супольнага выступаньня проці гэтае найпаважнейшае беларускае культурна - асьветнае пляцоўкі ў Заходняй Беларусі, — на злосьць ім усім гімназія пратрывала 10 гадоў і трываць будзе далей: гэтага хоча ўсё беларускае ідэйнае грамадзянства, гэтага хочуць беларускія працоўныя масы Зах. Беларусі, і іх воля — найлепшая абарона ад усялякіх наскокаў і „узрываў“, незалежна ад таго, скуль-бы яны ні йшлі.

Няхай-жа цьвіце і працьвітае Віленская Беларуская Гімназія! Crescat, floreat!

# Аб апошніх падзеях у Віленскай Беларускай Гімназіі.

## (Комунікат Пэдагогічнай Рады Віленскай Беларускай Гімназіі)

Апошнія падзеі ў Віленскай Беларускай Гімназіі, закончыўшыяся, як ведама, выдаленьнем з гімназіі загадам Куратара Віленскага Школьнага Вокругу 20 вучняў старэйшых (8, 7, 6 і 5) клясаў, зусім зразумела ўстрывожылі і занепакоілі ўсё беларускае грамадзянства.

Весткі, якія траплялі з гэтае прычыны як у беларускую, так і ў польскую і жыдоўскую прэсу, часта не адпавядалі запраўднасьці і сьвядома ці несьвядома прадстаўлялі справу тэндэнцыйна, а Пэдагогічная Рада гімназіі, ня маючы адпаведнае беларускае прэсы, не магла даць належных высьненьняў і спраставаньняў; дзеля гэтага сёньня Пэдагогічная Рада лічыць сваім абавязкам публічна і об'ектыўна прадставіць шырокаму грамадзянству на старонках уласнае часопісі той стан, які закончыўся такім сумным фіналам.

### І. Як укладаўся склад Пэдагогічнае Рады.

Яшчэ летам мінулага 1928 году Галоўная Управа Т-ва Беларускай Школы, разглядаючы, як канцэсіянэр, справу Віленскай Беларускай Гімназіі, выслухаўшы даклады сп. аб. Дырэктара гімназіі гр. С. Паўловіча і Інспэктара гр. М. Марцінчыка, пастанавіла запрасіць на 1928/29 шк. год наступны пэдагогічны пэрсонал: Дырэктарам гр. С. Паўловіча (бо гр. Р. Астроўскі, якога Галоўная Управа у тым-жа засяданьні прасіла ізноў прыняць на сябе кіраўніцтва гімназіяй, адмовіўся) і вучыцялямі: гр. гр. А. Сакалову, А. Луцкевіча, Р. Астроўскага, А. Трэпку, М. Абрамовіча, А. Міхалевіча, В. Грышкевіча, К. Ральцэвіча, Л. Шчэнсновіча, М. Петкевіча, І. Савіцкага, М. Марцінчыка, К. Адольфову (вуч. паляністыкі) і М. Александровіч (вуч. паляністыкі). Не запрошаны быў толькі гр. С. Выслоух (паляніста), які працаваў у 1927/28 шк. годзе і які, між іншым, паклаў найбольш стараньняў перад уладамі, каб вучням беларускіх сярэдніх школаў была дана магчымасьць паступаць у польскія вышшыя школы, г. зн. дана была так званая матура.

Зложаны такім чынам сьпісак вучыцялёў Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы паслала на зацьверджаньне Куратару Віл. Шк. Вокругу. У адказ на гэта ў хуткім часе Галоўная Управа атрымала ад Куратара паведамленьне, што ён не згаджаецца зацьвярдзіць на пасаду Дырэктара Віл. Бел. Гімназіі гр. Паўловіча.

Палажэньне стварылася цяжкое, бо Галоўная Управа ня мела замест гр. Паўловіча адпаведнага кандыдата, а без дырэктара нельга было распачаць заняткаў у гімназіі. У справе гэтай былі роблены шматлікія захады перад Уладаю был. сэнатарам Уласавым, як Старшынёю Галоўнае Управы, аднак яны не далі ніякага пазытыўнага рэзультату. Апрача таго Куратар заявіў гр. Уласаву, што, акром Паўловіча, ён лічыць немагчымым зацьвярдзіць на пасадах вучыцялёў: гр. І. Савіцкаца (як нямаючага польскага обывательства), М. Петкевіча (якому Міністэрства і ў 1927/28 шк. годзе не дало дазволу выкладаць у гімназіі) і М. Марцінчыка, аб якім адміністрацыя дала благую „опінію“.

## 2. Пераход канцэсіі на гімназію да Бацькоўскага Камітэту.

У такім стане трывала гэтая справа аж да 28 жніўня, калі Віленскі Ваявода, як ведама, „завесіў" (спыніў) дзеяльнасьць Т-ва Бел. Школы. Для ўсіх тады стала ясна, што забарона дзеяльнасьці Т-ва беспасрэдна адаб'ецца і на лёсе Віл. Бел. Гімназіі, бо гэтым самым гімназія траціць тую праўную установу, якой даваліся канцэсіі на права вядзеньня школы. І вось дзеля гэтага Галоўная Управа Т-ва супольна з Нагляднай Радай 29 жніўня 1928 г. (г. зн. на другі дзень па атрыманьні паведамленьня аб „завешаньні" Т-ва) вынесьлі наступную пастанову:

„Да часу вырашэньня пытаньня аб узнауленьні дзеяльнасьці Т-ва перадаць усе правы і абавязкі Т-ва, як канцэсіанэра Віленскай Беларускай Гімназіі, Бацькоўскаму К-ту тэй жа гімназіі".

Прыймаючы пад увагу: 1) што адначасна ад Куратара было атрымана паведамленьне аб адабраньні ад Т-ва Бел. Школы, як зачыненага адміністрацыйнаю Уладаю, канцэсіі на права утрымліваньня і вядзеньня Віл. Бел. Гімназіі, 2) што на 30 жніўня былі вызначаны экзамены ў гімназіі і ўжо пазьяжджаліся дзеці, Бацькоўскі Камітэт на падставе вышпрыведзенае пастановы Галоўнае Управы Т-ва зьвярнуўся да Куратара з просьбаю аб выданьні канцэсіі на гімназію Бацькоўскаму К-ту. Дэлегацыі, якая зьвярнулася да Куратара ў гэтай справе ад Бацькоўскага К-ту, была дадзена прынцыповая згода, аднак, з прычыны таго, што Бацькоўскі К-т, ня маючы статуту, не зьяўляўся юрыдычнай асобай, аформіць адразу гэтую справу Куратар не згадзіўся, толькі даў дазвол распачаць у гімназіі экзамены і упаўнаважыў аднаго з старэйшых вучыцялёў Гімназіі, гр. Трэпка, часова кіраваць школаю. Так распачала сваю дзеяльнасьць Віленская Беларуск. Гімназія ў бягучым 1928-29 школьным годзе пад фірмаю новага канцэсіанэра — Бацькоўскага К-ту Віленскай Беларускай Гімназіі.

## 3. Зьмены ў складзе Пэдагогічнае Рады

Зусім зразумела, што пры такіх трудных варунках, у якіх апынулася нашая школа, Бацькоўскі К-т ня мог ізноў прадстаўляць на зацьверджаньне тых вучыцялёў, якіх Куратар катэгорычна адмовіўся зацьвярдзіць Галоўнай Управе. У выніку шматлікіх захадаў Бацькоўскага К-ту Куратарам быў зацьверджаны наступны сьпісак вучыцялёў Віл. Бел. Гімназіі на 1928/29 шк. год:

Дырэктар **А. Трэпка** (працуе ў гімназіі з 1922 г.), а пасьля яго адмовы **Ф. Стэцкевіч** (былы дыр. Радашк. Бел. Гімн.).

Вучыцялі:

1) **А. Сакалова**—працуе ў гімназіі ад самага яе заснаваньня, г. зн. з 18/1 1919 г.
2) **А. Луцкевіч** — працуе ў гімназіі з невялікімі перарывамі з 1920 г.
3) **Н. Банцлебэн** працуе ў Віл. Бел. Гімназіі з всяны 1919 г.
4) **М. Абрамовіч** працуе з 1921 г.
5) **А. Міхалевіч** „ 1922 г.
6) **М. Заморын** „ 1923 г.
7) **Р. Астроўскі**—закладчык і першы дырэктар беларускае гімназіі у Слуцку ў 1917 г., працуе ў Віленскай Беларускай Гімназіі з канца 1923 г.
8) **Я. Шнаркевіч**—б. вучыцель Нясьвіскай Беларускай Гімназіі ў 1921 - 1923 г. і закладчык Клецкай Беларускай Гімназіі ў 1924 г.
9) **Л. Шчэпсновіч** працуе ў Віленскай Бел. Гімназіі з 1925 г.
10) **К. Ральцэвіч** працуе з 1927 г.
11) **В. Грышкевіч** „ 1927 г.
12) **В. Выслоух** „ 1927 г.
13) **М. Александровіч** „ 1927 г.
14) **К. Адольфова** „ 1927 г.
15) Ксёндз **А. Станкевіч** працуе ў Віл. Бел. Гім. з вясны 1919 г.
16) Сьвяшч. **А. Коўш** працуе з 1928 г.
17) **В. Гаўрыліковая** працавала у Радашк. Бел. Гім. з. 1925 г.

У апошнія часы у складзе пэд. пэрсаналу зрабіліся невялікія наступныя зьмены: замест ад мовіўшагася Ф. Стэцкевіча абавязкі дырэктара па просьбе Бацькоўскага К-ту спаўняў нейкі час гр. Міхалевіч, а з 1 студня зацьверджаны на гэтай пасадзе прадстаўлены Бацькоўскім К-там былы дырэктар гімназіі Р. Астроўскі. В. Гаўрыліковая, з прычыны сямейных абставін, выйшла са складу вучыцялёў гімназіі; рэшта ўсе працуюць па сёньняшні дзень.

Як бачым, склад пэдагогічнага пэрсаналу, запрошанага Бацькоўскім К-там гімназіі, розьніўся ад таго, які быў паданы Галоўнаю Управаю, толькі тым, што замест незацьверджаных Куратарам Паўловіча, Петкевіча, Марцінчыка і Савіцкага былі запрошаны Шнаркевіч і Заморын, былыя вучыцялі беларускіх гімназіяў у 1921 - 27 гадох, ды акром таго былі запрошаны: В. Гаўрыліковая—жонка старшыні сел.-раб. пасольскага клюбу ў гэтым Сойме, былая вучыцелька радашкоўскай гімназіі, і С. Выслоух, уведзены ў склад пэдагогічнага пэрсоналу гімназіі яшчэ ў 1927 годзе з ініцыятывы гр. Марцінчыка і пасла Дварчаніна. Незапрасіць С. Выслоуха Бацькоўскі К-т лічыў немагчымым таму, што перадусім ён зьяўляецца добрым вучыцелем (а школа у гэтым зацікаўлена), а па другое, што гр. С. Выслоух мае пэўныя заслугі адносна гімназіі: Бацькоўскаму К-ту ведама, што гімназія атрымала і матуру і правы ў значнай меры таму, што гр. С. Выслоух, будучы паляком, зусім чэсна і об'ектыўна прадставіў Уладзе фактычны стан рэчаў у школе і здолеў разьвеяць тую брахню, якая так доўга вялася аб нашай гімназіі рознымі шовіністычнамі элемэнтамі.

## 4. Навуковы плян гімназіі.

Пераходзячы цяпер да навуковага пляну гімназіі, мусім зазначыць, што плян гэты ад 1927 году абсолютна ні ў чым не зьмяніўся. Лік лекцый беларускае мовы і лік лекцый польскае мовы у-ва ўсіх клясах застаўся той самы, толькі ў 2 і 3 клясах згодна з загадам Куратара бяз згоды Пэд. Рады уведзены ў гэтым годзе па 2 лекцыі гісторыі Польшчы побач з застаўшыміся ў гэтых клясах 2 лекцыямі гісторыі Беларусі — і гэта з тэй прычыны, што гэтыя лекцыі прадбачаны міністэрскім плянам і зьяўляюцца абявязковымі для ўсіх поўнапраўных школаў. А дзеля таго, што з 3 кастрычніка 1928 году Міністэрства прызнала Віленскай Белар. Гімназіі правы школаў урадовых для усіх (ад 1 да 8) клясаў яе, ды што нашыя вучні маюць правы сёньня пераходзіць без экзамену ў-ва ўсе іншыя поўнапраўныя на'т не-беларускія школы,—зусім зразумела, што і праграмы павінны былі быць узгоднены.

Вось фактычна і ўсё, датычачае арганізацыйнага боку справы гімназіі.

### 5. Унутранае жыцьцё гімназіі.

Пераходзячы далей да разгляду унутранага жыцьця школы, трэба адзначыць, што заняткі ў Віленскай Беларускай Гімназіі сёлета распачаліся нармальна 4 верасьня, але такі нармальны стан трываў ня доўга: 3—4 тыдні. У хуткім часе у органах прэсы пад назовам „Працаў“ дзеля нейкіх асабістых непаразуменьняў пачалося абліваньне гразёю найбольш заслужаных і паважных вучылялёў гімназіі, і пад уплывам гэтага палажэньне ў гімназіі значна зьмянілася. Дый зразумела: сыстэматычнае цкаваньне ў органах прэсы, якія здабылі сабе агульны послух дзякуючы ранейшаму ўчасьцю ў іх ведамых і заслужаных беларускіх дзеячоў, не магло не адбіцца на настроях вучняў, асабліва найбольш гарачай і лішне мала палітычна ўзгадаванай, хоць і актыўнай, часткі іх.

І вось усё часьцей і часьцей у гімназіі здараюцца выпадкі сьвядомага і зласьлівага нарушэньня школьнае дысцыпліны. Група моладзі, пад'юджваная нейкімі вонкавымі сіламі, пачынае вясьці сваю работу ў кірунку скампрамітаваньня школы, у кірунку, пагражаючым самому ўрэшце яе існаваньню. Школьная дысцыпліна з кожным днём начынае слабець, распалітыкаваная невялічкая кучка моладзі сыстэматычна прапускае лекцыі, ня слухае загадаў настаўнікаў, намаўляе да непаслухмянства малодшых вучняў і г. д. Меры пэдагогічнага ўплыву, якія тасуець Пэдагогічная Рада, дзеюць не надоўга.

І Пэдагогічнай Радзе і Бацькоўскаму К-ту і ўрэшце здаровай частцы саміх вучняў становіцца ясным, што такі стан далей трываць ня можа.

### 6. Пастанова Бацькоўскага К-ту і Пэдаг. Рады.

10-га сьнежня адбываецца супольнае паседжаньне Бацькоўскага К-ту і Пэдагогічнай Рады, якія, пасьля ўсебаковага і ўважлівага разгляду стварыўшагася палажэньня, між іншым, вынясьлі наступную рэзолюцыю:

„Прыймаючы пад увагу, што паступкі некаторых вучняў гімназіі дэмаралізуюча ўплываюць на жыцьцё школы, а непадпарадкаваньне элемэнтарным вымогам школьнай дысцыпліны можа давесьці да аканчальнага разбурэньня школы, Бацькоўскі Камітэт супольна з Пэдагогічнаю Радаю Віленскае Беларускае Гімназіі, пасьля ўсебаковага разгледжаньня сытуацыі, у якой апынулася школа, пастанавілі:

1) Катэгорычна і з поўнай жорсткасьцю вымагаць ад усіх вучняў абсолютнага падпарадкаваньня школьнай дысцыпліне, без якой наагул немагчыма ніякая праца ў школе, а перадусім Пэдагогічная Рада, пачынаючы ад дня 11—XII, будзе пільна сачыць, каб: 1) вучні акуратна прыходзілі на лекцыі, не пакідалі іх, а такжа не пазьніліся на лекцыі. 2) Падчас пераменаў вучні павінны пакідаць клясу, каб гэтым самым даць магчымасьць старанна праветрыць яе, а дыжурныя клясы павінны сачыць за выкананьнем гэтага парадку, стоючы па чарзе пры дзьвярох сваей клясы. 3) Пасьля першага званка вучні павінны безадкладна ўвайсьці ў свае клясы, а пасьля другога сядзець кожны на сваім месцы або прынамся быць пры сваёй лаўцы. 4) Вучні як на лекцыях, так і на пераменах і па лекцыях павінны безакладна выконваць усялякія загады вучыцеля ці клясовага кіраўніка. 5) Вучні, якія жывуць у інтэрнатах, ня маюць права пасьля 17 гадзіны пакідаць памяшчэньне інтэрнату без дазволу кіраўніка. 6) Наагул, моладзь павінна точна прытрымоўвацца правілаў, абязываючых вучняў у школе і паза школай. За невыкананьне вышэйазначаных элементарных вымогаў школьнай дысцыпліны і гігіены, віноўнікі будуць сурова караны, пры чым вучні, якія мелі ўжо перад гэтым засьцярогі ці то былі караны за нарушэньне школьнае дысцыпліны, будуць безадкладна выдаляцца са школы. Апрача гэтага Дырэкцыя зараз-жа выкліча ў Вільню бацькоў тых вучняў, якія ня раз нарушалі школьную дысцыпліну.

II) Па разгледжаньні справы вучня VII кл. Тарасюка Міхала, які не падпарадкаваўся ў дзень 3 сьнежня загаду вучыцелькі паляністыкі п. М. Александровічовай, пастаноўлена безакладна выдаліць Тарасюка Міхала з школы на працяг часу 3 дзён, г. зн. ад 11 да 13 сьнежня ўключна“.

Дырэктар Стэцкевіч, пасьля прыйма вышэй выменанай пастановы, запрапанаваў вызначыць асобу, якой ён можа перадаць кіраўніцтва школай да часу аканчальнага ўпарадкаваньня справы яго адстаўкі. Пэдагогічная Рада, прыняўшы адстаўку гр. Стэцкевіча, аднагалосна выбрала гр. А. Міхалевіча, які згадзіўся на выпаўненьне абавязкаў дырэктара.

### 7. Выдаленьне вучняў Куратарам Шк. Вокругу.

Аднак, меры ўнармаваньня школьнага жыцьця, прынятыя Пэдагогічнай Радай супольна з Бацькоўскім Камітэтам на засяданьні 10 сьнежня, як аказалася пасьля, былі ўжо спозьненыя з прычыны падзеяў, зьвязаных са сьездам Т-ва Беларускай Школы. Паслы Дварчанін і Валынец на свой мітынг 11 сьнежня дапусьцілі старэйшую моладзь гімназіі, і самачынны „дэлегат“ ад вучняў прачытаў тамака прыгатаваную некім недарэчную „дэклярацыю“, дзе дамагаўся звальненьня з гімназіі паловы вучыцялёў, жадаў выкіненьня з праграмы гімназіі навукі рэлігіі, абвяшчаў шкодай для беларускае справы атрыманьне гімназіяй правоў і матуры і г. д.

Ня гледзячы на тое, што памянёныя паслы, быўшы самі пэдагогамі, разумелі добра ўсе шкадлівыя для вучняў вынікі гэткага выступленьня, яны ня толькі ня ўстрымалі іх, але на'т пасол Дварчанін прыняў ад вучня прачытаную ім „дэклярацыю“.

Гэтае выступленьне вучня гімназіі адбілося дужа цяжка на лёсе школы, на лёсе тэй групы моладзі, якая неаглядна паддалася намовам нейкіх закулісных палітыканаў.

Адміністрацыйная і школьная Улада, будучы зусім дэтальна наінфармавана аб мітынгу пасла Дварчаніна і вучнёўскай рэзалюцыі, праз сваіх агентаў — учасьнікаў мітынгу, умяшалася ў справы гімназіі, і такім чынам кіраваньне жыцьцём школы перашло з рук Пэдагогічнае Рада да дзяржаўнае школьнае Улады, якая загадам Куратара Віленскага Школьнага Вокругу ад 18.XII 1928 г. і прыказала неадкладна звольніць з гімназіі наступных вучняў:

Таўпеку Уладзіміра, Урбановіча Язэпа, Лукашыка Васіля, Кабушку Уладзіміра, Міско Яку-

ба, Махляра Барыса, Засіма Піліпа, Кажанава Сяргея, Шалешку Івана, Шыціка Івана, Ігнатовіча Аляксандра, Кравецкага Хаіма, Кравецкага Моўшу, Шчаснага Уладзіміра, Ханяўку Часлава, Баярчука Вацлава і Тарасюка Міхала.

Лік гэты быў яшчэ павялічаны дадатковым загадам Куратара, згодна з якім былі звольнены: Бакач Пётра, Жураўлёў Сяргей, Давідовіч Іван і Скурка Зоя.

## 8. Становішча Пэдагог. Рады.

Па атрыманьні гэтага загаду і паведамленьні вучняў, сп. аб. Дырэктара гімназіі гр. Міхалевіч неадкладна склікаў экстрэннае засяданьне Пэдагогічнае Рады, якая між іншым вынесла такую пастанову:

„Заслухаўшы загад п. Куратара Віл. Шк. Вокругу з дня 18/XII 1928 г. за № II—46338/28 аб звальненьні 17 вучняў гімназіі, пастанавіла: прыняць да ведама і адначасна зьвярнуцца да п. Куратара і п. Віленскага Ваяводы з просьбаю аб дазволе Пэдагогічнай Радзе прыняць назад усіх звольненых вучняў, прадстаўляючы да гэтага наступныя мотывы:

1. Пэдагогічная Рада глыбока пераканана, што далёка'ня ўсе закіды адміністрацыйнае ўлады, на падставе каторых загадана звольніць памянёных вучняў, адпавядаюць запраўднасьці,

2. што Пэдагогічная Рада сама ўважліва сочыць за павядзеньнем сваіх вучняў і ў прыпадку неабходнасьці прыймае адпаведныя меры,

3. што па абвешчаньні вучням рашучай пастановы Пэдагогічнай Рады з дня 10 сьнежня г.г. констатуецца радыкальная зьмена ў школьным жыцьці гімназіі, не выключаючы выдаленых згодна з загадам Куратара вучняў, якія абсолютна падпарадкаваліся вымогам школьнае дысцыпліны,

4. што на вуч. Тарасюка Міхала за яго праступак на лекцыі п. Александровіч Пэдагогічнай Радай ужо была наложана адпаведная кара (дачаснае выдаленьне з гімназіі), якую ён адбыў, і пасьля гэтага абсолютна ніякіх праступкаў за ім не заўважана,

5. што пэдагогічныя меры ўплыву на вучняў, якія прымяняе Пэдаг. Рада, зьяўляюцца зусім дастатачнымі, меры-ж адміністрацыйныя зьяўляюцца наагул непажаданымі ў школе; тым балей, што, як відаць з пастановы супольнага засяданьня Пэдаг. Рады і Бацькоўскага К-ту з 10 сьнежня г. г., кіраўнічы апарат школы можа знайсьці ў сабе дастатачна сілы, каб выкінуць са школы самым няшчадным спосабам той элемэнт, які бы захацеў выкарыстываць школу для нейкіх іншых мэтаў,

6. што ў ліку выдаленых вучняў ёсьць 2 вуч. VIII клясы (Ханяўка і Таўпека), для якіх выдаленьне са школы напярэдадні сканчэньня яе зьяўляецца асабліва жорсткім,

і 7) што, ўрэшце, Пэдагогічная Рада ня можа так жорстка аднасіцца да моладзі, якая ў большасьці выпадкаў робіць тыя ці іншыя недазволеныя чыны не сьвядома, а выключна пад уплывам і па намове людзей, ня зьвязаных са школаю, якія сьвядома стараюцца ўцягваць моладзь у сфэру свае дэструкцыйнае працы, і што ўвесь, такім чынам, цяжар адказнасьці бязумоўна падае на іх“.

## 9. Захады аб павароце выдаленых вучняў і перашкоды ў гэтым.

На тым жа засяданьні Пэдагогічнае Рады былі атрыманы заявы ад усіх звольненых вучняў, дзе яны прасілі Пэдагогічную Раду заступіцца за іх перад Уладаю і дабіцца паўторнага іх прыйма у школу.

Гэта была зусім зразумелая незалежная акцыя самой моладзі, унутраны голас якое падказваў ей зыйсьці з таго няправільнага шляху, на які яе пхалі нейкія варожыя для школы сілы. Аднак, праз ноч нейкая рука ізноў здолела закруціць мазгі гэтым дзецям, бо ўжо з самага раньня на другі дзень, 20 XII, не зважаючы на катэгорычную забарону Дырэктара, яны ўвараліся ў 8-ую клясу, дзе ў той час адбывалася лекцыя, і спынілі заняткі. Ніякія довады настаўнікаў, што такім сваім павядзеньнем яны толькі утрудняць пазыцыю дэлегацыі, якая ў 12 гадзін мела йсьці ў гэтай справе да Ваяводы і Куратара, не памаглі, і звольненыя вучні адмовіліся пакінуць памяшчэньне гімназіі да таго часу, пакуль яны ўсе ня будуць прыняты назад у школу.

У той час, як дэлегацыя Пэд. Рады і Бацькоўскага К-ту у складзе: гр. Астроўскага, Кэпеля, Сакаловай, Выслоуха і Міхалевіча была у Куратара і Ваяводы, паліцыя, якая ад мамэнту выдаленьня вучняў пільна наглядала за імі, увайшла за імі ў памяшчэньне гімназіі, арыштавала іх і адправіла ў арэштны дом. Ізноў прыйшлося прадстаўніку Бацькоўскага К-ту зварочвацца да Ваяводы з просьбаю аб выпушчэньні арыштаваных былых вучняў. Просьба яго была ўважана, і ўсе арыштаваныя вучні ў той жа яшчэ дзень былі праз паліцыю адвезены да іх бацькоў і здадзены ім пад расьпіскі.

Так сумна для моладзі скончылася акцыя, у якой, зразумела, яна была толькі сьляпым аружжам у руках няўхопных і безадказных элемэнтаў.

Дзякуючы захадам Бацькоўскага К-ту і Пэдагогічнай Рады, адзін з звольненых вучняў VIII к. Ч. Ханяўка прыняты назад у гімназію, што-ж датычыць рэшты, дык ізноў-жа, дзякуючы намове сваіх няпрошаных „апякуноў“, час свайго паваротў у школу яны самі сабе аддаляюць. Як вядома, 11 студзеня большасьць звольненых вучняў прыехала назад у Вільню і пад вонкавым уплывам імкнулася выклікаць сярод вучняў Віленскае Гімназіі школьную забастоўку. Зразумела, рэшта школьнае моладзі на гэта не пайшла, а звольненыя вучні гэтым толькі утруднілі пазыцыю тых, хто шчыра хацеў бы іх бачыць ізноў у школе за навукай. На паўторную просьбу прадстаўнікоў Пэдагог. Рады, Куратар адказаў, што ён зусім ня хоча зачыняць дзьверы школы перад моладзьдзю і ня будзе чыніць перашкодаў, каб праз нейкі час, як унармуецца жыцьцё школы, дазволіць звольненым вучням ці то паступіць назад у школу, ці то дапусьціць іх да экзаменаў (VIII кл.) экстэрнамі ў тым прыпадку, калі гэты час яны займуцца запраўды навукай і ня будуць лезьці ў справы, да якіх яшчэ не дарасьлі.

З гэтае заявы вышэйшага прадстаўніка Школьнае Улады ў краю відаць, што справа звольненых вучняў не прадстаўляецца так трагічна, як гэта некаторым здаецца. Усе яны ўжо добрыя дзяцюкі, і большасьць з іх здольныя, а дзеля гэтага пры жаданьні яны запраўды ня страцяць на'т году. Хаця ў хаце займацца шмат цяжэй.

Акром звольненых Куратарам 20 вучняў Пэдагогічная Рада 20 і 21 сьнежня, выконываючы сваю пастанову з 10/XII, зволніла за сьвядомае і зласьлівае непадпарадкаваньне загадам настаўнікаў і Дырэктара гімназіі двух вучняў VII кл. Жыткевіча Івана і Барыса Васіля.

**10. Нормаваньне школьнага жыцьця.**

У сувязі з надыходам Каляд і разьездам вучняў на сьвята да бацькоў, Пэдагогічная Рада перагледзіла пасьпехі ў навуках усіх вучняў і зрабіла пастанову, у выніку якое з малодшых клясаў па матывам чыста пэдагогічным (за непасьпяваньне ў навуках) адпраўлены да бацькоў і звольнены з гімназіі, як яе стыпэндыяты, наступныя вучні: Міско Іван І, Міско Іван II, Мазоль Анатоль, Сіцько Мікалай, Тарасюк Юрка і Іскрык Сяргей.

Гэтую меру Пэдагогічная Рада будзе тасаваць і ў будучым да ўсіх тых, хто, карыстаючыся з стыпэндыі ці дапамогі гімназіі і дабрадзейных устаноў, будзе дрэнна вучыцца, бо ўважае, што ня мае моральнага права марнаваць грошы на тых, хто ня прыносіць ніякае карысьці ані сабе, ані сваім бацькам, ані грамадзянству.

**Пэдагогічная Рада
Віленскае Беларускае Гімназіі.**

# Грамадзяне Радныя!

„Вучэньне — сьвятло, нявучэньне — цемра" кажа народная прыказка, і даводзіць гэтую ўсім зразумелую праўду ня трэба. Але таксама ўсім добра ведама, што шырокія народныя масы ня могуць здабыць сабе асьветы без адпаведнае школы. Толькі школа і то школа ў роднай матчынай мове дае тыя кадры інтэлігенцыі, якія, зьвязаныя з сваім народам, вядуць яго да лепшай будучыні. Без інтэлігенцыі нельга ўявіць сабе нармальнага разьвіцьця нацыі. Без інтэлігенцыі нацыя гібее, чахне, асымілюецца і ўрэшце замірае.

І вось, чаму павадыры беларускага адраджэнскага руху ўва ўсе мамэнты і часы перадусім зьвярталі ўвагу на школы.

Школа ў роднай мове — гэта баявы дэвіз усіх чэсных ідэйных барацьбітоў за правы і долю беларускага народу ня толькі на культурным, але і на палітычным фроньце. Усім ведама, як цяжка жылося беларускаму народу пад прыгонам ды ня лепш было і ў час так званае волі. Здабыць для Беларуса асьвету, гэта было часта толькі лятуценьнем, бо царскі ўрад прылажыў усе высілкі, каб не дапусьціць беларускага мужыка да крыніцы сьвятла і веды.

Усім ведама такжа, з якімі вялізарнымі высілкамі беларускаму грамадзянству ў Заходняй Беларусі да апошніх дзён прыходзіцца ўтрымліваць свае культурна-асьветныя пляцоўкі. Усім ведама, якую няроўную барацьбу прышлося вясьці беларускім сярэднім школам, каб захаваць свае ідэолёгічнае і нацыянальнае аблічча.

Элемэнт, які вучыцца ў гімназіі —гэта пераважна дзеці сялян, а большасьць іх—незаможныя.

Прыймаючы пад увагу, што беларускі народ нароўні з іншымі грамадзянамі Польскае Дзяржавы плаціць падаткі і нясе іншыя павіннасьці казьне, ён лёгічна павінен карыстацца і аднолькавымі з іншымі грамадзянамі правамі, гэта знача: дзеці яго павінны-б мець шырока арганізаваную магчымасьць здабываць сабе навуку ў сваёй роднай школе на месцы. Абставіны, аднак, незалежныя ад нас, вытварылі такі стан, калі на цэлыя ваяводзтвы сёньня ў Польшчы прыпадае ледзь адна беларуская сярэдняя школа і то ня ўсюды поўнапраўная, у той час, як польскія ўрадовыя сярэднія школы істнуюць амаль кожным павеце. Паводле польскай урадовай статыстыкі, павятовыя соймікі Віленскага ваяводзтва ахвяравалі на асьвету ў 1927-28 годзе звыш паўтара міліёна злотых, якія, зразумела, пайшлі выключна на польскія школы.

Такі стан рэчаў трываць доўга ня можа, бо трудна, каб за свае грошы беларускае жыхарства ня мела сваёй нацыянальна-беларускай, належнай яму на падставе Польскае Конституцыі і Міжнародных Трактатаў, школы. Беларускі народ павінен заняць належнае яму месца сярод вольных народаў, і сучасны польскі ўрад мусіць урэшце зразумець і папавіць тыя крыўды, якія дагэтуль былі роблены беларускаму народу.

Вясной мінулага году абітур'енты беларускіх сярэдніх школаў былі дапушчаны да так званых матуральных экзаменаў пры сваёй-жа Віленскай гімназіі ў роднай мове, а 1 кастрычніка тая-ж Віленская Беларуская Гімназія атрымала правы ўрадовай сярэдняй школы, і гэтым адчыніліся для нашых дзяцей. дзьверы ў вышэйшыя польскія школы Але адна гімназія з правамі на паўтраця міліёнаў беларусаў пад Польшчай — гэта кропля ў моры: мы павінны дабіцца далейшых уступак ад польскіх уладаў, маючы на мэце стварэньне такіх варункаў, каб кожны Беларус мог у сябе на месцы вучыць сваё дзіця ў роднай беларускай школе.

Каб хутчэй настаў гэты мамэнт, нам трэба ўчыніць усе высылкі, каб узгадаваць найбольшы лік сваей інтэлігенцыі, каб мець кадры сьвядомых нацыянальна і не адарваных сацыяльна ад свайго народу працаўнікоў. Фабрыкаю-ж гэткіх кадраў зьяўляецца бязумоўна школа наагул, а Віленская Беларуская Гімназія, якая 24 сакавіка будзе ўрачыста абходзіць свой 10-гадовы юбілей,—асабліва. Дзеля гэтага Пэдагогічная Рада гімназіі зварочваецца да Вас, Грамадзяне, з заклікам памагчы сваёй роднай школе, памагчы сваім землякам. Вызначайце стыпэндыі на ўтрыманьне незаможных дзяцей сваей гміны ў інтэрнаце і гімназіі, вызначайце дапамогу і самой гімназіі на навуковыя прылады і бібліятэкі!

З свайго боку Пэдагогічная Рада зрабіла неабходныя захады перад уладаю, і ўжо віленскі і навагрудзкі Ваяводы прыраклі нам ня скрэсьліваць з гмінных і соймікавых бюджэтаў ані воднага граша, які будзе прызначаны на гімназію.

Пэдагогічная Рада пераканана, што гмінныя Радныя споўняць узложаны народам на іх абавязак і прыйдуць з дапамогамі сваей незаможнай моладзі, якая ў будучыні, верым, сплаціць свой доўг народу з працэнтамі.

Прымеце пад увагу пры гэтым, грамадзяне Радныя, што ўтрыманьне аднаго вучня ў інтэрнаце пры Віленскай Беларускай Гімназіі выносіць 50 злотых у месяц (500 злотых у год), плата-ж за навуку выносіць для вучняў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I клясы | — — | 50 зл. | у год |
| II „ | — — | 70 „ | „ |
| III „ | — — | 90 „ | „ |
| IV „ | — — | 110 „ | „ |
| V „ | — — | 130 „ | „ |
| VI „ | — — | 160 „ | „ |
| VII „ | — — | 190 „ | „ |
| VIII „ | — — | 230 „ | „ |

Акром таго на падручнікі, сшыткі і іншыя прылады вучню неабходна мець у год ня менш 50—80 зл. і, такім чынам, поўная стыпэндыя для аднаго вучня выносіць у год, у залежнасьці ад клясы, ад 600 да 800 зл.

Няўжо-ж, грамадзяне Радныя, у міліёнавых самаўрадавых бюджэтах нязнойдзецца нейкіх пару тысяч злотых на тое, каб памагчы сваім дзецям? Памятайце, што толькі школа, забясьпечаная самім народам, будзе адпавядаць яго імкненьням і жаданьням' Толькі апека працоўнага люду можа даць здаровую працоўную, грамадзкую школу, ў росквіце якое і ляжыць залог культурнага і нацыянальнага разьвіцьця самога народу.

**Пэдагогічная Рада Віленскай Беларускай Гімназіі.**

Вільня, 18—1 1929 г.

# З жыцьця вучнёускай моладзі Віленскай Беларускай Гімнзіі.

Сьвяткуючы 10-гад. юбілей Віл. Бел. Гімназіі, лічу сваім абавязкам падаць маленькі абразок з жыцьця і працы былых вучняў гімназіі за час 1919 - 1923 г.,—адна частка якіх ужо паскончавала Вышэйшыя Школы, а другая яшчэ туляецца па сьвеце, далёка ад Бацькаўшчыны, ня маючы змогі вярнуцца дамоў. Для ўсіх тых, якія ўзгадаваліся ў Базыль'янскіх мурох, успамін аб В. Б. Г. заўсёды будзе найбольш мілым сэрцу і мо' асабліва для тых, якія былі, у працягу некалькіх гадоў, зьвязаны супольнай працай на беларускім груньце, як і дружным таварыскім жыцьцём. Хутка пасьля заснаваньня гімназіі, калі сярод вучняў мінула пэўная сяброўская неазнаёмленасьць і няпэўнасьць што да магчымасьцяў нейкай пазашкольнай працы,—выкрысталізавалася пэўнае угрупаваньне вучняў, якія пазьней палажылі пагатак да заснаваньня гуртка моладзі пры В. Б. Г., выданьня часопісі, ладжаньня спэктакляў і г. д. У ўсіх было адно гарачае жаданьне прычыніцца як мага да развіцьця бел. нац. руху, пашырыць сярод моладзі сьвядомасьць, працаваць у напрамку шырэйшага азнаямленьня з сваёй Бацькаўшчынай.

Першыя спробы, прыхільна сустрэнутыя Пэдагогічнай Радай гімназіі ў асобе дырэктара Кахановіча, далі неўзабаве памысныя вынікі. Як зараз успамінаю, сабраўся нас тады маленькі гурток у аднэй з клясаў гімназіі з думкай заснаваць гурток бел. моладзі ў Вільні, -- і кожны меў ужо цэлы сьцяг апрацаваных праэктаў, заданьняў і плянаў.

Пасьля даўгой і звычайна вельмі вострай дэбаты быў распрацаваны статут, які тады-ж і быў урачыста падпісаны закладчыкамі яго, у першую чаргу А. Клімовічам, Н. Арсеньневай, М. Ільляшэвічам, братамі А. і А. Дылісамі, В. Грышкевічам і У. Каржом. Статут быў пададзены на зацьверджаньне Пэдаг. Радзе гімназіі.

З таго мамэнту і пачынаецца інтэнсыўная праца, прадугледжаная ў рамках статуту гуртка. Першым заданьнем было выдаць сваю ўласную часопісь. Мяркавалі, камбінавалі, скуль узяць грошаў: пачалі ладзіць вечарыны. Усе амаль вучні, як старэйшых, так і малодшах клясаў шчыра адгукнуліся на распачатую гуртком працу і дзейна пачалі самі прыймаць у ёй удзел. Зьбіраўся што раз больш матэрыял для часопісі; каб пабудаваць сцэну ў салі гімназіі, зьбіраліся адусюль дошкі, цьвякі і розныя прылады. Урэшце сцэну зрабілі. Крэслы для спэктакляў пазычалі ў мястовай салі, дэкарацыі ў былым гарадзкім тэатры, і так пакрысе можна было нормальна ладзіць спэктаклі. Увесь даход з вечарын ішоў на часопісь, незаможных вучняў і на неабходныя прылады да сцэны. 14 лютага 1921 г. вышаў першы нумар часопісі „Маладое Жыцьцё", мэтай якое было... „гартаваньне маладых бел. сіл на змаганьне за духовае адраджэньне Беларусі і закліканьне ў свае рады новых байцоў за гэтую-ж ідэю". Розныя пытаньні, зьвязаныя з усебаковым адраджэньнем бел. народу, пытаньні самаўзгадаваньня, арганізацыі на шырэйшых падставах бел. моладзі Зах. Беларусі, тэатр, спорт, літэратура, беларусазнаўства, — усё гэта знаходзіла гарачы водгук на шпальтах нашае маладое часопісі. Зьмяшчаліся артыкулы маладых пісьменьнікаў, выпрацоўваліся ўсё новыя сілы, і на чарзе стаяла пытаньне аб павалічэньні фармату часопісі. „Маладое Жыцьцё" спаткала прыхільны водгук сярод старэйшага бел. грамадзянства, але асабліва сярод моладзі. Надыходзіла карэспандэнцыя з правынцыі, запытаньні, розныя артыкулы для часопісі і г. д. Адчувалася жыцьцё, бадзёрасьць і яшчэ большая воля да далейшае працы. Сягоньня з задаваленьнем мушу канстатаваць, што „М. Ж.", адзіная у той час часопісь бел. моладзі,—усяго выйшла 7 нумароў,—мела свой значны ўплыў на бел. моладзь у працэсе формаваньня бел. нац. і соц. сьвядомасьці. У хуткім часе большы лік вучняў захапіўся пра-

цай, і вучні малодшых клясаў пачалі выдаваць сваю літаграфаваную часопісь, у чым стараліся іх усебакова падтрымліваць старэйшыя. Паўстала ўласная вучнёўская бібліятэка. Вучні ахвяроўвалі кнігі, з даходаў вечарыны купляліся новыя бел. выданьні, заклалася вокладачная майстроўня, дзякуючы энэргіі вучня Ул. Калаура, у якой ён сам і працаваў. З правінцыяй, як напр. з Радашкоўскай гімназіяй, быў навязаны кантакт і паўстала думка аб стварэньні Цэнтральнага Саюзу бел. моладзі Зах. Беларусі і аб скліканьні зьезду. Быў выпрацаваны статут і пададзелы да зацьверджаньня ўладзе; аднак, нам было адмоўлена. У той-жа самы час гурток атрымаў запросіны на кангрэс польскае работніцкае моладзі ў Варшаве. Ня могучы выслаць свайго дэлегата, гурток абмежыўся пасланьнем прывітаньня.

Ня гледзячы на кепскія матэрыяльныя умовы, праца йшла наперад. Зьбіраліся ахвяры, складкі, спрачаліся за кошт кожнага радка друку „М. Ж.". Пастаноўкі спэктакляў, дзякуючы рэжысэрству гр. Акушкі, Шчэнсновіча, Аляхновіча, праходзілі што раз з большым пасьпехам. Выявіліся здольныя мастацкія адзінкі ў асобе гр. Калаура, Бэрэндт, Н. Арсеньневай, Каржа і др. У 1922 г. частка матурыстаў, скончыўшых гімназію, паехала вучыцца ў Прагу, і для гуртка ад'езд найбольш дзейных сяброў яго А. Клімовіча і В. Грышкевіча быў значнай стратай. Аднак, праца ня спынялася. Пэрыяд 1921—22 г.г. і 1922—23 г. быў асабліва дзейны, дзякуючы тагочаснаму інспэктару гімназіі гр. Красінскаму. Пад яго кіраўніцтвам распачаў сваю дзеяльнасьць гістарычна-літэратурны гурток, у якім быў прачытан цэлы шэраг рэфэратаў, як вучнямі, так і старэйшым грамадзянствам, — гр. А. Луцкевічам, Вішнеўскім, Чыжэўскім, Красінскім і др. Вучнёўскія рэфэраты аб пытаньнях бел. культ.-нац. жыцьця зьбіралі шмат слухачоў, і з прыемнасьцяй успамінаю сягоньня тыя жывыя дыскусіі, якія падымаліся пасьля прачытаньня рэфэрату. Вялікай заслугай гр. Красінскага было стварэньне Драматычнай Майстроўні, дзе паступова пад умелым і сур'ёзным кіраўніцтвам гр. Красінскага узгадоўваліся нашыя маладыя тэатральныя сілы. Пастаноўка 13/XI 22 г. „У зімовы вечар" Э. Ожэшковай дала поўную сатысфакцыю ўсей доўгай працы і высілкам. На далейшым пляне прадбачалася пастаноўка „Раскіданага гнязда" Я. Купалы, „На дне" Горкага, „Пан Міністар" Ф. Аляхновіча. На жаль, ад'езд гр. Красінскага не дазволіў зьдзейсьніць гэтыя пляны.

Сярод гэтай творчай працы і ўздыму асабліва цяжкім ударам для ўсіх была раптоўная сьмерць нашага мілага таварыша Ул. Калаура, надзвычайна здольнага працаўніка і артыста. Усе, хто яго ведаў, не маглі пагадзіцца з думкай, што яго сярод нас няма і ня будзе. Пэўная дэпрэсыя, выкліканая гэтай стратай, пакінула свой сьлед, але жыцьцё клікала зноў да дзейнасьці. Для тых, якія ведалі У. Калаура, заўсёды сьветлаю застанецца памяць аб ім.

Гэтак сярод хвілін радасьці і гордасьці над вынікамі нашай працы, энэргіі і веры ў свае сілы, часам вялікага жалю і суму над стратамі і непасьпехамі, — мінулі гады. Цеснае сяброўства, якое ўзгадавалася ў гімназ. мурох, стварыла моцны грунт для пасьпеху ў працы і маральнага падтрыманьня адзін аднаго. Адныя канчалі, ехалі вучыцца далей, але заставаліся малодшыя сілы, якія прадаўжалі распачатую дзейнасьць. Не таму, што гэта ўжо была нейкая традыцыя, спадчына, але сьвядомыя, што беларускі рух у Зах. Беларусі вымагае maximum энэргіі і высілкаў, каб змагацца за яго вызваленьне. Гэтыя-ж вымаганьні стаяць парад намі і сягоньня, а таму, узіраючыся на 10-гадовы пройдзены шлях Віл. Бел. Гімназіі, якая дала ўжо шмат маладых, здольных сіл, — шчыра жадаема ей далейшага пасьпеху ў узгадаваньні і фармаваньні беларускай працоўнай інтэлігэнцыі, якой нам так не хапае.

**А. Д.**

---

# Народная асьвета у Польшчы.

## І. Агульная пастаноўка.

Гаварыць аб значэньні асьветы наагул хіба ня трэба: гэта зразумелі ўжо даўно ня толькі ўсе дзяржавы, ўсе народы, але на'т кожны чалавек паасобку.

Ад ступені культурнасьці народу залежыць яго эканамічнае палажэньне—яго матэрыяльны дабрабыт, яго сіла, урэшце—яго на'т палітычны лад і спакой дзяржавы.

Не зважаючы, аднак, на тое, што ўсе гэта добра разумеюць і так ці йначай імкнуцца да падняцьця культурнага роўня грамадзянства, ня ўсім аднолькава гэта ўдаецца—ня ўсе аднолькава карыстаюцца з дадатніх вынікаў тае працы і тэй энэргіі, якія на гэта расходуюцца, Прычына, ёсьць ведама, — у няўмелым ці мо' хутчэй, сказаць-бы, нядбалым падыходзе да так важнае і далікатнае справы.

Польшча належыць як раз да тых дзяржаў, якія нядбала падыйшлі да справы народнае асьветы—пабудавалі, можна сказаць, так вялізарную школьную будыніну на пяску, і дзеля таго, ужо цяпер, усяго праз 8—9 гадоў, сьцены гэтае будыніны зарысаваліся, далі, як кажуць архітэкты, трэшчыны.

Заўважыў гэта, здаецца, і сучасны польскі ўрад, бо зарухаўся, заклапаціўся ды паклікаў „дактароў" лячыць хворы школьны арганізм, ратаваць яго ад пагражаючае катастрофы. Аднак, відаць, для гэтага патрэбна мець добрых інжынераў-архітэктаў, бо не замазваць ці ўзмацоўваць ды латаць тут трэба, а перабудоўваць ад фундамэнту. Бяз гэтага рана ці позна сучасная школьная будыніна разваліцца, пацягнуўшы, ёсьць ведама, пры гэтым шмат-лікія „крывавыя" ахвяры.

Калі застанецца так далей, калі ня будуць прыняты неадкладна неабходныя рацыянальныя меры, дык зразумела, што з кожным годам будзе ўсё горай ды горай; можа вытварыцца, ўрэшце, такое палажэньне, калі пры надпрадукцыі інжынераў ня будзе ня толькі добрых майстроў ды дзесятнікаў, а на'т проста кваліфікаваных рабочых; будзе шмат прафэсароў, а бракавацьме кваліфі-

каваных добрых настаўнікаў; будзе непамерная разбудова настаўніцкіх сэмінарыяў, а бракавацьме пачатковых школ, *) адным словам будзе шмат генаралаў, а ня будзе радавых салдат—ня будзе арміі.

Сучаснае палажэньне польскае школы як раз спрыяе разьвіцьцю такіх ненармальных абставін. Усё часьцей ды часьцей чуваць нараканьне прафэсароў на „забагненьне“ Унівэрсытэтаў неадпаведным, мала падгатаваным элемэнтам; Міністэрства і Кураторыюмы на'т змушаны рэдукаваць настаўніцкія сэмінарыі, а школы нацыянальных меньшасьцяў стогнуць ад недахвату кваліфікаваных вучыцелёў; урад баіцца надпродукцыі інтэлігэнцыі, а урадовая статыстыка выказвае 80% анальфабэтызму і г. д. і г. д.

Увесь гэты, так сумны, малюнак—прадукт недарэчна пабудаванае школьнае сыстэмы. Сучасная школа ня толькі не пасабляе моладзі знайсьці сваё назначэньне, сваё месца ў грамадзкай машыне, а, наадварот, часта як раз пхае яе на фальшывую дарогу, адсутнасьць жа прафэсыянальных школ ды абсолютны хаос у школьных праграмах толькі прысьпяшае калецтва моладзі.

Мы ведаем, што па прыродзе сваёй ніхто ня можа быць ані вышшым, ані нішшым за самога сябе. Можа гэта й сумна, але няўхільна—гэта лёс, перад каторым бяссільны і чалавечая воля і найшчасьлейшыя абставіны. Назначэньне чалавека—разьвіць тыя духовыя запасы, якія, як зярнё, ляжаць у яго натуры, але не ў яго волі і сіле дабіцца працаю ці высілкам большага, чым тое, што дадзена яму прыродаю, зрабіцца вышэй за самога сябе, ці быць ня тым, чым яму празначана.

Прырода, будучы скупою ці, лепш кажучы, эканомнаю на геніяў, дае за тое бяз меры людзей з душою і з здольнасьцямі, г. зн. з усім тым, што патрэбна чалавеку, каб быць вартым гэтага высокага званьня чалавека. Людзі бяздарныя, ні да чога ня здольныя наагул рэдкі, яны становяць такі-ж вынятак, як і фізычныя калекі (вырадкі).

Калі-ж мы бачым так многа людзей няздарных, бязглуздых, няздольных, дык тут прырода зусім не вінавата. Прычына гэтага — найчасьцей дрэнная асьвета, у выніку якое так рэдка здараецца пабачыць чалавека на сваім месцы.

Уявіць сваё назначэньне — справа ня лёгкая, хоць часта, калі гвалтам ня пхаць чалавека на фальшывы шлях, дык ён яго уяўляе. Нажаль, асьветная справа ў нас пастаўлена так, што сама школа найчасьцей і пхае чалавека ня туды, куды яму трэба, робячы тым самым з яго калеку, няздарнага, няздольнага, ну, адным словам ня толькі не карыснага, а на'т шкоднага для грамадзянства.

Пры сучасным палажэньні школьнае справы ў Польшчы, нічога не памогуць усе тыя сэлекцыі (прасяваньні) моладзі, аб якіх так часта гавораць куратарскія загады і Пэдагогічныя Рады. Трэба падыходзіць да гэтага пытаньня ня штучна, а натуральна — не замазваць шчыліны ў сьцяне, а будаваць яе на такім фундамэньце, каб яна ня трэскалася. Трэба рабіць натуральны „адбор“ самаю школьнаю сыстэмаю.

*) У 1924—1925 шк. годзе не хадзіла зусім у школу 1.109,594 дзяцей (Nik. Stan i potrzeby szkoln. Łódź 1927 г.).

А зрабіць гэта і проста, і лёгка, толькі трэба ўсю школьную справу ўлажыць у строгую, абдуманную, рацыянальную сыстэму. Цяпер няма ніякае школьнае сыстэмы, ёсьць толькі паасобныя школы, абсалютна паміж сабою нічым ня зьвязаныя. У гэтым увесь трагізм!

Кожны пэдагог ведае, што лепш зусім ня прыняць дзіця ў сярэднюю напр. школу, скіраваўшы яго на іншы шлях, чымсь, дацягнуўшы яго, амаль не за вушы, да сярэдзіны, выганяць; лепш заставіць вучня прасядзець два гады ў якой небудзь 5—6 клясе, чымсь „рэзаць“ яго на так званых „матуральных“ ці выпускных экзаменах у вапошняй клясе. А колькі-ж мы бачым трагэдый там, дзе гэты прынцып не захоўваўся? Колькі маладых, здаровых, поўных сілы і энэргіі людзей сталіся ахвярамі ці недарэчнасьці школы, ці — імкненьня зрабіць з чалавека больш таго, што дала яму прырода?!

Школа—гэта машына, якая добра можа працаваць толькі тады, калі кожнае колца, кожная шасьцярня, кожны, ўрэшце, зубчык гэтае шасьцярні—спраўныя.

Школьная сыстэма—гэта фабрыка, якая працуе самымі далікатнымі і точнымі машынамі, дагляд за каторымі павінен быць і ўмелым, і дакладным, і спраўным, і асьцярожным. Фабрыка гэтая ня можа працаваць спраўна тады, калі хоць адна машына „дае перабоі“.

Нельга рэарганізаваць Унівэрсытэт, ня крануўшы сярэдняе школы; нельга рэарганізаваць гэтую апошнюю, не ўпарадкаваўшы адпаведна пачатковае; нельга ўрэшце наагул рэарганізаваць агульна - эдукацыйных (асьветных) школаў, калі побач з імі на розных ступенях ня будуць дзеяць адпаведныя прафэсыянальныя ды спэцыяльныя школы.

Лёгка ўсё гэта крытыкаваць, могуць сказаць нам, але зрабіць?!...

Мы ўжо вышэй сказалі, што зрабіць усё гэта і ня вельмі цяжка, і нязвычайна проста; у доказ чаго зараз і пастараемся даць праэкт цэлай стройнай, закончанай і, на наш пагляд, зусім адпаведнай для Польшчы школьнай сыстэмы.

Схэму гэтага праекту—школьнае дрэва, якое тут паказана на рысынку, тыя, хто стаіць блізка школы, зразумеюць бяз усякага тлумачэньня; для людзей-жа, якія цікавяцца гэтым, але стаяць ад школы далёка, пастараемся даць адпаведныя кароценькія выясьненьні.

Падвалінаю ўсяе школьнае сыстэмы ці „пнём“ гэтага „школьнага дрэва“, якое павінна быць моцна ўросшым у тэрыторыю дзяржавы, зьяўляецца 7-мі гадовая пачатковая школа з праграмаю, мала чым розьнячаюся ад сучаснай; толькі апошні — 7-мы аддзел гэтае школы павінен быць выдзелены, бо назначэньне яго—завяршыць, накрыць першы паверх, першы ярус гэтае будыніны: 7-мы адзел—гэта страха пачатковае школы.

Апошні аддзел павінен празначацца толькі для тых вучняў-(цаў), якія, ці па здольнасьцях сваіх, ці з іншых якіх - небудзь прычын, змушаны сваю агульную асьвету абмяжаваць пачатковаю школаю. Тыя-ж, што маюць магчымасьці і хочуць вучыцца далей, павінны па сканчэньні 6-га аддзелу пач. школы пераходзіць беспасрэдна ў 4-х клясовую сярэднюю агульна-асьветную школу. Так, паночкі, 4-х клясовая сярэдняя школа! Пара ўжо ўрэшце




Школьнае дрэва

нам расстацца з „аслаўленай“ 8-мі клясоваю „клясычнаю“ гімназіяй. Напрасна некаторыя так учапіліся за яе аберуч. Яна ўжо свой век аджыла і павінна памерці; морфій ужо ёй не паможа. Трэба, наадварот, паклапаціцца аблягчыць ей гэтыя сьмяротныя мукі, няхай хутчэй адыходзіць у тар-та-ра-ры! Пара, даўно пара!

Зразумела, што праграмы першых 6-ці аддзелаў пачатковае школы і 4-х клясовае сярэдняе школы павінны складаць адзін ланцуг.

Такім чынам, першыя тры аддзелы — 1 - 3 (першы концэнтр) пачатковае школы адпавядалі-б фактычна трох-кляс. пачатковай школе (у старым разуменьні гэтага назову), а 4, 5 і 6-ты ад-

дзелы (другі концэнтр) адпавядалі-б першым тром клясам сучаснай школы сярэдняй; першая кляса сярэдняе школы адпавядала-б 4-ай кл. сучаснае сяр. школы, а апошняя IV-ая кл.—7-ай і часткаю 8-ай клясам сучаснае сяр. школы.

Праграма 7-га аддзелу пачатковае школы павінна быць пабудавана так, каб яна завяршала першыя два концэнтры і давала-б **maximum** неабходных у жыцьці практычных ведаў.

Па сканчэньні 7-га аддзелу пачатковай школы, моладзі павінен быць адкрыты беспасрэдны доступ у ніжшыя профэсыянальныя школы з 3-х гадовым курсам (2 гады тэорэтычна-лябораторныя і 3-ці год—практыка).

Школы гэтыя павінны мець прынамся наступныя аддзелы: 1) гаспадарчы, 2) грамадзкі, коопэрацыйна-самаўрадавы, 3) цясельска-сталярны, 4) сьлясарна-кавальскі, 5) печна-мулярны, 6) шавецкі, 7) кравецкі.

Назначэньне гэтых школ вельмі важнае: яны павінны даць дзяржаве: культурных гаспадароў, працаўнікоў коопэрацыі і валасных самаўрадаў ды добрых майстроў: цесьляў, сталяроў, кавалёў, сьлёсараў, пячнікоў, муляроў, шаўцоў, краўцоў і ім. пад.

Усяго гэтага ў сучасны мамэнт край ня мае, а хіба-ж кожны згодзіцца з тым, што чэсны і па своему разумны шавец, які добра ведае сваё рамясло, значна вышэй за дрэннага генарала, пэданта вучонага ці, урэшце, дурнога вершаплёта. Галоўная задача чалавека ў кожнай сфэры яго дзеяльнасьці, на ўсякай ступені яго грамадзкага служэньня—быць чалавекам.

Чатырох-клясовая сярэдняя школа (трэці концэнтр), далей пашыраючы агульную асьвету, адначасна павінна даваць магчымасьць сваім гадунцом па сканчэньні яе трапляць не беспасрэдна ў унівэрсытэты (бо можа ня ўсе маюць на гэта здольнасьці ці наагул магчымасьці), а, так сама, у адумысловыя школы — так званыя інстытуты, першыя 1-2 курсы якіх станавілі-бы адначасна першыя курсы адпаведных факультэтаў унівэрсытэту ці акадэміі. Школы гэтыя ці інстытуты павінны быць 3-х гадовыя (1-2 курсы — тэорэтычныя, якія, як ужо гаварылася, былі-б і першымі курсамі адпаведных вышшых школ, а 3-ці курс — практычны).

Школы такія, ці інстытуты, як іх мы назвалі, павінны дзяліцца на наступныя: 1) Пэдагогічны з аддзеламі: a) літэрат.-гістарычным, b) фізыка-матэматычным, c) прыродазнаўча-географічным i d) моваў. 2) Мэдыцынскі з аддзеламі a) акушэрна-лекарскім, b) дэнтыстычным і c) фармацэўтычным. 3) Аграномічны. 4) Тэхнічны з аддзеламі: a) тэхналёгічна-электротэхнічным, c) гандлёвым, d) горна-мэталюргічным, e) архітэктурным і f) комунікацыйным. 5) Грамадзкі, ці йначай яго можна назваць праўна-адміністрацыйным. 6) Вэтэрынарны і 7) Мастацкі.

Інстытуты такія маюць колёсальнае значэньне. Перш-наперш дзякуючы ім можна было-б урэшце здаць у архіў апошнюю эмблему сярэднявечча — так званыя „матуральныя экзамены“, якія столькіх нэрваў, а часта й жыцьця каштавалі і каштуюць і вучням і настаўнікам. Яны тады-б былі зусім непатрэбны, бо пры помачы як раз першых 1-2 курсаў інстытуту унівэрсытэты і акадэміі адабралі-б сабе зусім рацыянальна, а не лётарэйна, прафільтраваны элемэнт і раз на заўсёды пазбыліся-б таго балясту, якога ў сучасны мамэнт так многа ў вышэйшай школе.

Такі „адбор“, натуральны „адбор“ бязумоўна ў сто разоў лепшы за ўсякія псыхо-тэхнічныя экзамены.

Толькі так пабудаваная сыстэма можа даць магчымасьць унівэрсытэту і акадэміям вымагаць поўнай кваліфікацыі на студэнта вышшае школы, а людзі з ненадзвычайнымі здольнасьцямі (па нашаму людзям з надзвычайнымі здольнасьцямі месца ў вышшай школе), а з сярэднімі, маглі-б закончыць сваю асьвету адпаведна да іх здольнасьцяў і ўпадабаньня ў вышэй адзначаных спэцыяльных інстытутах ці сярэдніх фаховых школах.

Інстытуты такія павінны абыймаць усе галіны грамадзка-дзяржаўнага жыцьця. Так напр.:

1) Пэдагогічны інстытут з аддзеламі: a) літэрат.-гістарычн. b) фізыка-матэмат. c) прыродна-географ. і d) моваў даваў бы нам неабходныя кадры настаўнікаў пачатковых школ. Найбольшжа здольныя слухачы гэтага інстытуту па праслуханьні 2 тэорэтычных курсаў маглі-б паступаць на адпаведныя факультэты унівэрсытэту, разыходзячыся адтуль ці пэдагогамі ў сярэднія школы, ці проста спэцыялістамі ў лябораторыі і кабінэты вучоных.

2) Мэдыцынскі інстытут з аддзеламі: a) акушэрна-лекарскім, b) дэнтыстычным і c) фармацэўтычным адыграў бы ня менш важную ролю, як пэдагогічны. Там павінны фармавацца лекары душы, тут—цела. Гэтыя два інстытуты павінны кінуць як найбольш культурных працаўнікоў у народную гушчу.

Нашыя сучасныя мэдыцынскія факультэты ніколі не дадуць на вёску патрэбнага ліку скончаных дактароў, бо пераважная іх большасьць застаецца па вялікіх местах ці мястэчках, а на вёсцы?... Як 300 гадоў таму, і дасюль яшчэ паношацца знахары ды знахаркі.

Калі іншыя культурныя народы ўжо даўно паслугоўваюцца спэцыялістамі з адпаведнымі і часта высокімі кваліфікацыямі для гадоўлі ды лячэньня сьвіней, дык ці не пара-ж нам падумаць, каб мець хоць адпаведна-кваліфікаваных людзей для ўзгадаваньня і лячэньня дзяцей? Пара ўжо нам скончыць з нагвалт робленымі, па рэцэпту благой памяці Ст. Грабскага, рознымі „докшталцаёнцымі“ курсамі для вучыцялёў пачатковых школ.

Ад вучыцялёў **як раз пачатковых школ** павінны вымагацца поўныя кваліфікацыі і неабходны стаж, бо там, пры пачатках, пры фармаваньні 10-15 гадовых душ, патрэбны запраўдныя ўзгадаваўцы-мастакі, а не партачы—рамесьнікі, там патрэбен культурны настаўнік у поўным значэньні гэтага слова, бо там фактычна й крыніца таго духовага калецтва, з якім мы так часта спатыкаемся.

Пара так сама скончыць ужо й з так званымі фэльчарамі (прасьцей—ваеннымі санітарамі) ды павівальнымі бабкамі, якія фактычна мала чым розьняцца ад сярэдня-вечных знахарак—ведзьмаў!

Калі ня можна даць у сучасны мамэнт народу адпаведных скончаных, так сказаць, дактароў, дык дайма-ж яму хоць іх заступнікаў — памочнікаў, людзей культурных, спэцыялістых, якія ведалі-б, калі можна справіцца з бядою собскімі сіламі, а калі патрэбна неадкладная прысутнасьць

старшага доктара. Толькі, нам здаецца, людзі з закончанаю сярэднюю асьветаю ды хоць 3-4-ма гадамі мэдыцынскае, пры 1-гадовай практыцы, пад кіраўніцтвам старшага доктара маглі-б выканаць гэтыя абавязкі. *)

Прысутнасьць на вёсцы такога лекара і вучыцеля з інстытуцкім прыгатаваньнем ў вельмі кароткі час зьмяніла-б нашую забітую і забытую вёску да непазнаньня. Ну, зразумела, што людзі гэтыя не павінны быць чужынцамі таго краю і народу, дзе і сярод якога ім прыдзецца працаваць.

3) Сельска-Гаспадарчы інстытут, 1-2 курсы каторага адпавядалі-б с.-гаспадарчай акадэміі, даваў бы нам, з аднаго боку, вучыцялёў для нішшае с.-гаспадарчае школы, а з другога боку памочнікаў аграномаў і інструктароў, ці проста, урэшце, культурных гаспадароў на сваім собскім кавалку зямлі.

4) Інстытут грамадзкі, ці інакш праўна-адміністрацыйны, 1 ці 2 курсы каторага былі-б такімі-ж першымі курсамі праўнага факультэту Ун-ту, прыгатаўляў бы людзей дзеля заняцьця пляцовак у адміністрацыйным і агульна-грамадзкім ды самаўрадаваным апараце.

5) Тэхнічны інстытут з аддзеламі: a) тэхнолёгічным, b) электро - тэхнічным, c) гандлёвым, d) горнамэталюргічным, e) архітэктурным і f) камунікацыйным даваў бы перш-на-перш настаўнікаў-інструктароў для адпаведных профэсыянальных нішшых школаў, а апрыч таго адсюль бы выходзілі памочнікі інжынераў—тэхнікі для ўсіх галінаў фабрычна-заводзкае прамысловасьці і дзяржаўных прадпрыемстваў.

Здальнейшыя із слухачоў гэтага інстытуту па праслуханьні 1-2 курсаў пераходзілі-б у адпаведныя вышшыя школы—акадэміі, якія-б, выпускаючы з аднаго боку спэцыялістых-інжынераў, засілялі-б з другога боку лябараторыі і кабінэты вучоных найздальнейшымі маладымі сіламі.

6) Вэтэрынарны інстытут, так сама, як і мэдыцынскі, даў бы краю культурных вэтэрынарных лекараў, якія-б маглі выконваць у пэўных межах працу вэт. доктара.

7) Інстытут мастацтваў з аддзеламі: a) мастацтва, b) пяяньня і c) музыкі даў бы нам вучыцялёў рысаваньня, пяяньня, музыкі для пачатковых і сярэдніх школ, найздальнейшыя-ж слухачы яго маглі-б, ёсьць ведама, адсюль пайсьці у акадэмію мастацтва ці консэрваторыю.

Зразумела, што мо' сучаснае жыцьцё вымагае яшчэ іншых, ня ўспомненых тут, аддзелаў такіх інстытутаў, можа шмат аддзелаў прышлося-б яшчэ разьбіць на пад'аддзелы; тое самае магло-б датычыць і нішшых прафэсыянальных школ. Мы тут не дэталізуем гэтага праекту, бо не пачуваемся компэтэнтнымі ў-ва ўсіх галінах так шматлікіх варыянтаў грамадзкага і дзяржаўнага жыцьця.

Такую працу магла-б выканаць толькі камісія, зложаная з прадстаўнікоў сярэдніх, вышшых і спэцыяльных школаў.

Пры вызначэньні ў інстытутах тэорэтычных курсаў, адпавядаючых ці лепш кажучы служачых адначасна і першымі курсамі адпаведных вышшых школ, мы адводзілі 1-2 гады, бо можа розныя галіны будуць вымагаць і рознага часу. Дзеля тэй жа самай прычыны ня будзем тут гаварыць і аб часе, які павінен быць адведзены на тую ці іншую вышшую школу — акадэмію, бо час гэты можа хістацца ад 2-х гадоў на пэдагогічным факульцэце да 3-х ці на'т 4-х гадоў напр. на мэдыцыне.

Што датычыць Пэдагогічнага факультэту ці Інстытуту, дык тут бязумоўна павінен быць захаваны вызначаны намі вышэй час, г. зн. 3-х гадовы інстытут (з двама гадамі тэорэтыч. і 1-годам практыкі) і 2-х курсавы Унівэрсытэт. Гэты час і неабходны і зусім дастатачны, каб выпаўніць усю праграму. Каб ня быць галаслоўнымі, пакажам гэта на прыблізнай ці прымернай праграме фізыка-матэматычнага аддзелу і факультэту.

На першых 2-х курсах (тэорэтычных) фіз.-мат. аддзелу пэдагогічнага інстытуту трэба і можна выканаць наступную праграму: 1) Аналіз безканечна-малых вялічынь, 2) Дыфэрэнцыялы з прылажэньнем іх да геомэтрыі, 3) Інтэгралы з прылажэньнем іх да геомэтрыі, 4) Тэорыя лічбаў, 5) Вышшая альгебра, 6) Аналітычная геомэтрыя, 7) Агульны курс фізыкі, 8) Неарганічная хімія, 9) Апісовая і практычная астраномія і 10) Мэтэоролёгія. На праграму 3-га практычнага году складалася-б: 1) Агульная дыдактыка і пэдагогіка, 2) Гісторыя матэматыкі, 3) Экспэрымэнтальная псыхолёгія, 4) Экспэр. пэдагогіка, 5) Пэдолёгія (навука аб дзецях), 6) Мэтодыка матэматыкі (у асаблівасьці мэтодыка пачатковага курсу арытмэтыкі і пропэдэўтычнага курсу геомэтрыі), 7) Праца ў фізычн. кабінэце пры пастаноўцы досьледаў і 8) Практычныя заняткі і пробныя лекцыі ў школе.

Каб закончыць Унівэрсытэцкую праграму Фізыко - Матэмат. факультэту з тымі, хто сюды прыйдзе па праслуханьні 2-х тэорэтычных курсаў інстытуту, так сама хіба 2-х курсаў хопіць, бо-ж, калі ня мыляемся, дык прайсьці застаецца прыблізна наступнае: 1) Інтэграваньне дыфэр. раўнаньняў, 2) Тэорыя праўдападобнасьці, 3) Сфэрычная астрономія, 4) пашырыць фізыку г. зн. прайсьці поўны курс тэрмодынамікі, вышшай оптыкі і тэорыю электрычнасьці, 5) Мэханіка (статыка, кінэматыка, мэхан. матэрыяльнага пункту і цьвёрдага цела, гідростатыка і гідродынаміка) ды яшчэ мо' пара невялічкіх спэцыяльных курсаў і—усё.

Думаем, што ня толькі на пэдагогічным інстытуце і фіз.-мат. факультэце магчыма ўзгодніць ды збудаваць такую праграму, якая-бы, будучы суцэльнай, давала-б адначасна і магчымасьць разьвіцьця яе на два концэнтры, але так-сама і на ўсіх іншых інстытутах, факультэтах ды акадэміях.

Па сканчэньні такіх пэдагогічных інстытутаў, маладыя людзі мелі-б увесь неабходны запас і веды і практыкі для таго высокага служэньня, якое іх чакае так у пачатковых, як і сярэдніх школах.

Думаю, што мэдыцынскія інстытуты далі-б ня горшыя кадры лекараў, акушэрак, фармацэўтаў і дэнтыстаў для служэньня шырокім народным масам, для барацьбы з цемраю і забабонамі, для асьвятленьня яркім полымем самых глухіх ды занядбаных куткоў нашага краю.

*) Калі справа мэдыцынскага інстытуту спэцыялістам выдавалася-б немагчымаю ці наагул недарэчнаю, дык тады аднак трэба было-б прыдумаць нейкія іншыя меры, каб змусіць дактароў працаваць на вёсцы, а не гуртавацца пераважна і выключна па вялікіх гарадох.

## II. Беларуская школьная справа.

Нашкіцаваўшы ўперад агульную схэму дзяржаўнае школьнае будыніцы, пастараемся цяпер у сувязі з гэтым разглядзець справу беларускага школьніцтва, а такжа паказаць рэальныя магчымасьці, якія павінны быць неадкладна зьдзейсьнены.

Але з чаго тут пачаць? Заданьне ня лёгкае! Ці-ж можна гаварыць аб беларускай школе, як нечым рэальна-існуючым?

Дасюль былі 2-3 (II-III клясовыя) прыватныя беларускія школы, (калі ня лічыць тых 63 тайных школ, якія існавалі у 1925-26 г.) ды адна напалову беларуская сямілетка ў Вільні № 33 (урадовая), пры чатырох прыватных беларускіх гімназіях — у Вільні, Радашковічах, Наваградку і Клецку.

Сёлета справа мала ў чым зьмянілася: адчынена, праўда, 19 школ урадовых беларускіх і 20 утраквістычных — польска-баларускіх, 4 першыя клясы Наваградзкае і ўсе клясы Віленскай Беларускай гімназіі атрымалі правы публічнасьці ды невялічкую дапамогу ў форме некалькіх этатаў і... хіба, што ўсё. Няма, як бачым, ніводнае беларускае **настаўніцкае сэмінарыі** пры 165 сэмінарыях польскіх, з каторых 118 з 20.614 вучнямі — дзяржаўныя, няма **пэдагогічнага інстытуту**, гімназіі ня маюць забясьпечваючае іх цалком урадовае дапамогі і дзеля гэтага ня могуць нармальна разьвівацца, а Радашкоўская гімназія ўладаю фактычна перароблена на пачатковую школу, бо старэйшыя клясы зачынены; беларускія кваліфікаваныя настаўнікі супроць свае волі змушаны далей працаваць у польскіх школах так-званае „конгрэсоўкі“, тыя-ж, што аберуч трымаюцца за свой родны кут, дыскваліфікаваны; вучыцялём беларускіх гімназіяў, якія бязупынна працуюць у іх па 6-10 гадоў, не прызнаюцца кваліфікацыі і г. д. Хіба хопіць гэтага „сынодзіка“, каб выразна ўявіць сабе ўвесь гэты, так сумны, малюнак беларускага школьніцтва. І дзіўна: не зважаючы на так, больш хіба як дрэннае, палажэньне, беларускі культурны рух мае проста нячуваную жыцьцёвасьць. За кароткі час, бо менш як 2 гады, тэрыторыя Заходняе Беларусі пакрылася сотнямі гурткоў Т-ва Беларускай Школы з дзесяткамі тысяч сяброў, гурткамі Інстытуту Бел. Культуры і Гаспадаркі і Гаспадарскага Зьвязу, закладаюцца дзесяткамі **народныя дамы і бібліятэкі-чытальні**, вось ужо пяты год складаюцца **безрэзультатна** дзесяткі тысяч дэклярацыяў на урадовую беларускую, школу, і, не зважаючы на поўную адсутнасьць якога-небудзь дадатняга выніку, лічба іх не зьмяншаецца; урэшце, амаль-што ў кожнай вёсцы, у кожным найбольш забытым і забітым кутку ладзяцца беларускія спэктаклі-вечарыны, разьяжджаюць па правінцыі і папісываюцца ў Вільні аматарскія тэатры і г. д.

Усё гэта хіба выразна сьведчыць, што справа беларускае народнае асьветы не безнадзейна: яшчэ год, яшчэ два, і ею змушана будзе заняцца Міністэрства Асьветы, бо-ж гэтага руху, гэтае народнае хвалі „ужо ня спыніць, ня стрымаць“.

З чаго-ж трэба пачынаць? З пачатковае школы, рэч зразумелая, скажуць нам. Яно й так і не! Пачынаць толькі з пачатковае школы без агульнага строга-разумнага і мэта-згоднага пляну, мала: дабра з гэтага не чакаць.

Нельга пусьціць у ход машыну, калі бракуе хоць аднае сутнае часткі, бо, калі яна й рушыць, дык усё роўна—няўхільная катастрофа.

Трэба адначасна паставіць усё „школьнае дрэва“ ад корня да вяршка, тады толькі можна спадзявацца, што яно дасьць плады, іначай — засохне.

Аднак, нам могуць адказаць, што ўсё гэта добра, так, згаджаемся, але... але эканамічнае палажэньне, „стагнацыя“, „стабілізацыя“, „берныя балянсы“, „ашчаднасьць“ ну і да г. п. і д. п.

Не, адкажам мы, усё гэта толькі будзе пустою, няшчыраю адгаворкай, бо-ж якраз на сучасную хаотычную школьную неразьбярыху кладзецца шмат больш, чым вымагала-б гэтага рацыянальна пабудаваная школьная сыстэма. То-ж падумаць толькі, што ў Польшчы ёсьць аж 180 настаўніцкіх сэмінарыяў (разам з жыдоўскімі, нямецкімі, украінскімі, літоўскаю і утраквістычнымі), а колькіж было „дакшталцаёнцых“ курсаў? А колькі ёсьць школ сярэдніх ды вышшых? То-ж Польшча, такая невялікая фактычна дзяржава, бо з нейкім толькі 27 мільённым насельніцтвам, мае аж 6 унівэрсытэтаў (Варшава, Кракаў, Львоў, Пазнань, Вільня і Люблін), абмінаючы ўсе спэцыяльныя вышшыя школы! Ці-ж не зашмат усяго гэтага, калі прыняць пад увагу, што для беларусаў ды украінцаў няма на'т адпаведнага ліку пачатковых школ у роднай мове?...

Калі ўзяць тую школьную сыстэму, аб якой мы гаварылі вышэй, дык без усялякіх страт, адразу, у вадзін год усе настаўніцкія сэмінарыі ня толькі можна, а проста трэба было-б замяніць на адпаведныя **прафэсыянальныя**, а зачыніўшы 1/2 сярэдніх школ арганізаваць адпаведныя інстытуты, ня кажучы ўжо аб тым, што і тая 1/2, якая-б засталася, была-б ужо не 8-мі клясовымі, а 4-х клясовымі. Звольніўшыяся такім чынам вучыцялі сэмінарыяў і сярэдніх школ маглі-б быць заразжа перакінены ў пачатковыя школы, і гэтым падняўся-б значна культурны ровень апошніх.

Цяпер паглядзім, якія ёсьць хоць мінімальныя, але зусім рэальныя магчымасьці пры сучасным укладзе палітычных, эканамічных і іншых сілаў для беларускага школьніцтва.

Адкідаючы ўсю фразэолёгію што да „конституцыйных“, „трактатовых“, „уставовых“ і іншых законных правоў беларускага народу на аднолькавае і роўнапраўнае карыстаньне з усіх культурных агульна-дзяржаўных цэннасьцяў, можна ў сучасны мамэнт і трэба дабівацца зьдзейсьненьня наступнага пляну:

Пачнем з таго, што ёсьць—з гімназіяў. Існуючыя сёньня ўсе 3 беларускія прыватныя гімназіі перш-на-перш павінны атрымаць поўныя правы і адпаведную, зусім іх забясьпечваючую ўрадовую дапамогу. Акром таго замест закрытае ў Радашковічах гімназіі павінна быць адкрыта 1 поўнапраўная беларуская гімназія ў Горадні і другая у Берасьці ці Пінску. Такім чынам, у кожным ваяводзтве*), дзе беларусы жывуць шчыльнаю масаю ў пераважнай большасьці 65% — 80%, было-б па аднэй беларускай гімназіі. Хіба-ж не залішне? Гімназіі гэтыя павінны быць ужо рэфор маваныя — 4-х клясовыя. Пры патрэбе маглі-б

*) Тры беларускія паветы Беластоцкага ваяводзтва: Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі—магла-бы абслугоўваць Горадня.

быць адчынены пры іх раўналежныя клясы. Пры кожнай гэткай гімназіі павінен быць арганізованы інтэрнат, так, як гэта маем цяпер пры Віленскай, Радашкоўскай, Наваградзкай і Клецкай гімназіях. Лепш абмяжавацца такім нязначным лікам сярэдніх школ, але паставіць іх добра ды даць магчымасьць здольнай вясковай беднаце запраўды вучыцца, а ня мучыцца.

Раўналежна з гэтым павінна быць адчынена хоць **па I—2 на павет поўных беларускіх сямілетак** (7-мі аддз. пач. шк.) ды няпоўныя пачатковыя школы (пачынаючы ад 1—аддзяловае), ёсьць ведама, там, дзе народ гэтага дамагаецца і дзе яму, на падставе хоць так фатальнае для нас языковае уставы з дня 31.XII—24 г., яны належацца.

Калі побач з гэтым будуць адначасна дзеяць адпаведныя прафэсыянальныя школы беларускія, дык прынамсі ў працягу 5-ці гадоў і сямілетак і сярэдніх школ для нас хопіць.

Зразумела, што зараз жа трэба вярнуць усіх кваліфікаваных вучыцялёў-беларусаў з так званых кракаўскіх курсаў да краю, а ўсім чынным вучыцялём беларускіх гімназіяў прызнаць кваліфікацыі, адпавядаючыя іх эдукацыі. Для кваліфікаваных жа, але нячынных вучыцялёў-беларусаў былых расейскіх „народных училищ“ павінны быць адчынены ў Вільні урадовыя курсы полёністыкі і беларусазнаўства ды пасьля гэтага дадзены ім адпаведныя пасады на сваей бацькаўшчыне ў беларускіх школах. У працягу 5-ці гадоў трэба падгатаваць новыя адпаведныя беларускія вучыцельскія кадры з поўнымі кваліфікацыямі. Гэта, як бачым, само сабою закранае і школу вышшую.

Прынцыпова Віленскі Унівэрсытэт павінен быў-бы быць беларускім, як Львоўскі—украінскім, бо для палякоў хапіла-б і трох ун-таў (Варшава, Кракаў і Пазнань), Люблінскі наагул ня мае рацыі быту, яго варта перарабіць на адпаведны інстытут. Лепш мець меней Ун-таў, але з поўным абарудаваньнем, як вымагае гэтага апошняе слова навукі, ды з адпаведнымі навуковымі сіламі.

Ну, але вернемся да Віленскага. Дык прынцыпова, як гэта ўжо зазначана, ён павінен быць беларускім, але хіба цяпер толькі прынцыпова, бо рэальна ў сучасны мамэнт, ёсьць ведама, гэтага ня зьдзейсьніць. Затое зусім рэальна пры ім можна утварыць прынамсі хоць беларускі **падагогічны інстытут** ды утраквізаваць мо' яшчэ пару **факультэтаў, якія выпускаюць людзей для абслуж-ваньня шырокіх народных масаў** — гэта часткаю: праўна - адміністрацыйны і мэдыцынскі.

Само сабою разумеецца, што варта было-б усе школы Віленскага, Наваградзкага, Палескага і беларускіх паветаў Беластоцкага ваяводзтваў злучыць у вадным школьным вокругу—Віленскім, дзе бязумоўна павінен быць спэцыяльны дэпартамэнт ці аддзел беларускіх школаў *).

Віленская Прав. Духоўн. Сэмінарыя павінна быць неадкладна пераведзена на беларускую выкладовую мову.

Вось фактычна й усё.

Дык калі нам хто скажа, што і гэта не рэальна, што і гэта—за шмат для 3 мільёнаў беларусаў, якія плацяць на школьную справу такі вялізарны падатак (па 11 злотых у сярэднім на галаву), дык тады, паночкі, выбачайце! Ня трэба перакручваць самім ката да гары нагамі ды ня прышпільваць кожнаму беларусу „камуніі“, бо гэтаму ніхто не паверыць!

Трэба, урэшце, ў чалавеку хацець бачыць чалавека ды па чалавецку да яго аднасіцца!

Трэба проста, ясна ды шчыра сказаць: гэта—раблю, гэта—зраблю заўтра, тое—праз год, а таго зусім не магу ці не хачу зрабіць. Чэсны чалавек павінен так паступаць!

Дасюль мы гэтых простых, чэсных, шчырых адносін з боку ўладу маючых бачым вельмі і вельмі мала.

**Р. Астроўскі.**

*) Прыклад Латвіі ў гэтым выпадку вельмі і вельмі паказальны: там ёсьць 35 пачатковых беларускіх урадовых школ і беларуская дзяржаўная гімназія у Дзьвінску ды спэцыяльны аддзел беларускай школы пры Міністэрстве Асьветы

# ХРОНІКА.

## Беларускае Дабрадзейнае Т-ва.

— 19 сьнежня 1928 г. у памяшчэньні Беларускае Гімназіі адбыўся агульны сход сяброў Беларускага Дабрадзейнага Таварыства.

Пастаноўлена высьвятліць задоўжанасьць сяброўскіх складак паасобных сяброў і запрапанаваць ім безакладна ўнясьці ў касу Т-ва належныя складкі. Сябры, ня ўнёсшыя складак на працягу паўгоду, на падставе § 11 Статуту Т-ва выкрэсьліваюцца з ліку сяброў.

Пастаноўлена прыняць новых сяброў і наагул ажывіць дзейнасьць Т-ва і пашырыць яго працу.

На тым-жа агульным сходзе быў абраны новы Урад Т-ва і Рэвізыйная Камісія.

У Урад тайным галасаваньнем выбраны грам. Сакалова-Лекант, А. Міхалевіч, сьвяшч. А. Коўш, Банцлебэн і Грышкевіч, і кандыдатамі: інжынэр Трэпка, К. Круп і інш.

У Рэвізыйную Камісію такім-жа чынам абраны: грам. Р. Астроўскі, Ул. Лукашэвіч і М. Сіняўскі і кандыдатамі: Галяк і Станкевічыха.

Згодна з § 2 Статуту, Беларускае Дабрадзейнае Т-ва мае на мэце апеку як матэрыяльную, так і маральную над беларускаю асірочанаю і незаможнаю моладзьдзю, а таксама ўсякую іншую дабрадзейную чыннасьць.

§ 3 Статуту дае права Т-ву закладаць і утрымліваць прытулкі для дзяцей, старцаў, яслі, інтэрнаты, патранаты і т. п. інстытуцыі.

Пакуль-што Дабрадзейнае Т-ва найвялікшыя высылкі пакладае на ўтрыманьне інтэрнатаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі.

## Беларускае Выдавецкае Таварыства.

2 лютага 1929 г. адбыўся агульны сход Беларускага Выдавецкага Таварыства. На гэты раз сход адбыўся пры абсалютна поўным ліку сяброў Таварыства.

Павестка дня была наступная:

1. Адчыненьне сходу і выбары прэзыдыюму сходу. 2. Справаздача аб дзеяльнасьці Т-ва за мінулы час. 3. Плян працы на будучыню. 4. Выбары Ураду і Рэвізыйнае Камісіі і 5. Бягучыя справы.

Старшынёй сходу быў абраны гр. Антон Луцкевіч, сэкрэтаром В. Грышкевіч. Справаздачу ад імя Ураду а таксама плян працы на будучыню даў інж. Антон Нэканда-Трэпка. У дыскусіі прыймалі ўдзел: Р. Астроўскі, А. Луцкевіч, І. Мятла, М. Кэпель, І. Дварчанін, Г. Шырма і С. Паўловіч.

Падрабязную справаздачу дзеля недахопу месца ў гэтым нумары адкладаем да наступнага. Цяпер-жа толькі абмяжуемся да паданьня складу новага Ураду Таварыства і Рэвызыйнай Камісіі.

Тайным галасаваньнем у склад новага Ураду Таварыства выбраны: старшынёй — А. Трэпка, скарбнікам—А. Луцкевіч і сэкрэтаром—А. Дыліс. Кандыдатамі—В. Грышкевіч і Гузоўскі.

У Рэвізыйную Камісію выбраны: Р. Астроўскі, Я. Шнаркевіч і А. Міхалевіч.

## Расклад

### дзён і гадзін, у якія клясовыя кіраўнікі прыймаюць бацькоў ці апякуноў вучняў Віленск. Беларуск. Гімназіі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Заморын | — IV кл. | серада | — — 10 | — 11 |
| Шнаркевіч | — I кл. | субота | — — 11 | — 1½ |
| Шчэнсновіч | II кл. | серада | — — 10 | — 11 |
| Міхалевіч | — V кл. | серада | — — 12½ | 1½ |
| Ральцэвіч | — VIII кл. | чацьвер | — 10 | — 11 |
| Сакалова | — III кл. | аўторак | — 12 | — 1 |
| Банцлебэн | — VI кл. | аўторак | — 9 | — 10 |
| Астроўскі | — VII кл. | панядзелак | — 10 | — 12 |

## Пісьмы у Рэдакцыю.

*Паважаны гр. Рэдактар!*

Прыкра мне зварочвацца да Вас з просьбаю надрукаваць некалькі слоў у Вашай часопісі, бо разумею, што яна павінна быць вольнай ад усякіх асабістых спрэчак; але абсолютная адсутнасьць адпаведнае беларускае прэсы з аднаго боку, а таксама дзеля таго, што справа датычыць беларускіх шол з другога—змусілі мяне да гэтага.

У працягу амаль-што паўгоду пасол Дварчанін і Валынец у сваіх газэтах, якія паказваліся пад усякімі назовамі „Працы", абдівалі мяне розным брудам, які, ёсьць ведама, цалком і прыліп да іх асобаў.

Палемізаваць з гэтымі панамі на тэмы: „фашызму", „здрады", „прадажнасьці" і таму падобнага пустаслоўя лічу для сябе неадпаведным. Той, хто мяне ведае, і бяз гэтага не паверыць у недарэчную брахню аб нейкай зьмене ідэолёгіі, бо-ж зьмяніць сваю ідэолёгію я не магу: яна у мяне не пазычаная дзеля атрыманьня пасольскага мандату, а свая ўласная — выкаваная дзесяціголзьдзямі ў жорсткай барацьбе за правы і долю працоўнага народу.

На гэтым месцы хацеў бы толькі спраставаць і выясьніць некалькі паасобных мамэнтаў:

I) Сцьвярджаю, што пасол Валынец падаў у сваёй газэце сьвядома сфальшаваныя словы пасла Мацкевіча выключна дзеля таго, каб у масы пусьціць недарэчна-ілжывую вестку, што быццам мне залежала на зачыненьні Радашкоўскай гімназіі і я гэтага дамагаўся. Як відаць з стэнографічнае справаздачы з паседжаньня Сойму 13 лістапада 1928 г., пасол Мацкевіч заявіў, што зачыненьне гімназіі у Радашковічах уваходзіла ў пляны усіх тых, каго ён мог бы назваць „прыяцелямі нацыянальнае эмансыпацыі беларусаў", знача не самых беларусаў, а—палякоў.

II) Сцьвярджаю, што, наадварот, я зусім адкрыта і шчыра стаў у абарону ня толькі Радашкоўскай гімназіі, але наагул усіх беларускіх культурных пляцовак, і зразумела, што за іх існаваньне і росквіт буду і далей весьці барацьбу з усімі тымі, хто так ці йначай будзе імкнуцца да іх зьнішчэньня і ліквідацыі, бо ўважаю, што ў нашых культурных установах у значнай меры ляжыць залог памыснае барацьбы за канчальнае вызваленьне нашага абяздоленага й прыгнечанага беларускага народу. Ня прывыкшы хавацца—падобна Дварчаніну—за чужыя плечы, я маю цывільную адвагу адкрыта бараніць сваю пазыцыю так доўга, пакуль хапае мне сілы ці пакуль не пераканаюся, што займаная мною пазыцыя зьяўляецца шкоднай для беларускай справы. Дагэтуль-жа ніхто мяне не пераканаў, што, прыкладам, захаваньне Віленскай Бел. Гімназіі і Т-ва Белар. Школы ад іх разгрому зьяўляецца для нашых сялян і работнікаў шкодным.

III) Уважаю, што: 1) зачыненьне Радашкоўскай гімназіі, 2) масавая ліквідацыя гурткоў Т-ва Беларускай Школы, 3) давядзеньне амаль што да банкруцтва Беларускага Коопэратыўнага Банку, 4) поўнае зьліквідаваньне беларускай радыкальнай прэсы і ўрэшце 5) выдаленьне 20 вучняў з Віленскай Беларускай Гімназіі—усё гэта рэзультат на-зьдзіў згоднага супрацоўніцтва ў барацьбе з нашымі культурнымі установамі польскага ваюючага нацыяналізму і тых беларускіх дзеячоў, якія провокацыйна, з поўнаю сьвядомасьцяй таго, што робяць, падстаўляюць гэтыя установы пад удары польскае дзяржаўнае ўлады, маючы адначасна сьмеласьць называць сябе „абаронцамі сялян і работнікаў".

З пашанай **Р. Астроўскі.**

I/II 1929 г.

*Паважаны гр. Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць наступнае: У газеце „Беларуская Крыніца" зьмешчана было пісьмо был. старшыні Беларускага Дабрадзейнага Т-ва гр. Г. Шырмы, ў якім ён між іншым зазначаў, што ўважае сябе яшчэ дагэтуль правамоцным старшынёй памянёнага Т-ва.

Прыймаючы пад увагу, што 19 сьнежня 1928 г. адбыўся законны Агульны Сход Т-ва, вызначаны папярэднім прэзыдыюмам Т-ва на засяданьні 4 сьнежня 1928 г. (пратакол № 9), і сход гэты адбыўся згодна з §§ 15, 17, 19, 21, 22 і 23 статуту Т-ва, заява грам. Г. Шырмы зьяўляецца абсолютна безпадстаўнай, тым болей, што на Сходзе былі прысутныя сябра і сэкрэтар папярэдняга прэзыдыюма, якія без усялякае засьцярогі прызналі Сход компэтэнтным для вырашэньня справаў, зьмешчаных у парадку дня.

Заява гр. Шырмы, ў якой ён паклікаецца на тое, што быццам тэрмін агульнага Сходу быў адложаны на 20 студзеня 1929 г., зьяўляецца таксама непраўдзівай, бо ў кнізе пратаколаў прэзыдыюма пратакол № 9 ёсьць апошні і дзеля гэтага, калі гр Шырма і перасунуў тэрмін Сходу, дык зрабіў гэта незаконна без пастановы на' т прэзыдыюму і без паведамленьня аб гэтым сяброў Т-ва.

Адсутнасьць на Агульным Сходзе 2-х сяброў прэзыдыюму (гр. Шырмы і Пяткевіча), ёсьць ведама, не магла спыніць паседжаньня Сходу, а тым болей не магла зьмяніць яго пастанову, якія, як відаць з пратаколу Агульнага Сходу, былі прыняты аднагалосна.

З пашанай

Старшыня (—) **А. Сакалова-Лекант.**

(Глядзі на абароце).

## СЦЭНІЧНЫ АДДЗЕЛ.

35 **Янка Купала.** На Куцьцю, абразок у 1 акце. Інсцэніроўка М.Шчэнсновіча. Апрацоўка Рады Т-ва Прасьветы. Цана 0,20 гр.

36. На Полацкім Замчышчы (казачная фээрыя) Інсцэніроўка Оф. Сахаравай з п'есы Янкі Купалы „Сон на кургане". Цана 0,60 гр.

37. **М. Крапіўніцкі.** Па рэвізіі, камэдыя ў 1 дзеі.
**К Каганец.** Модны шляхцюк, п'еса ў 1 дзеі. Выд. Т-ва Белар. Школы. Цана 0,60 гр.

38. **М. Крапіўніцкі.** Пашыліся ў дурні, жарцік у 3 дзеях. Выд. Т-ва Бел. Школы. Цана 0,60 гр.

39. **Аляхновіч.** Дзядзька Якуб, драмат. абраз. у 2 акт.
**Долецкі.** Міхалка, абраз. у 1 акце.
**Чужынін.** Пярэстая красуля, жарт у 1 акце. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Цана 1 зл. 30 гр.

## КАЛЕНДАРЫ.

40. Беларускі Адрыўны Календар на 1929 год. Беларускае Выдавецкае Таварыства. Цана 1 зл. 40 гр.

41. Беларускі Календар-Кніжка на 1929 год. Выд. Беларускага Выдавецкага Таварыства. Цана 2 зл. 50 гр.

42. Беларускі Народны Календар на 1929 год. Выданьне не паказана.

43. Kalendaryk „Chryścijanskaj Dumki" na 1929 hod. Цана 0,60 гр.




Выдавец: Бацькаўскі Камітэт Віленскае Беларускае Гімназіі. Рэдактар: В. Грышкевіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.